# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 6 (728) ГОД XV | БЕЛАСТОК | 8 ЛЮТАГА 1970 г. | ЦАНА 60 гр.


## БГКТ хроніка

● Доктар філалагічных навук Аляксандр Баршчэўскі з Варшавы падрыхтаваў для Галоўнага праўлення БГКТ два даклады на наступныя тэмы: 1) «Ленін — чалавек, палітык, дзеяч», 2) «Ленін і справа Польшчы». 20-га студзеня ў ГП адбыўся семінар для лектараў аддзелаў БГКТ, на якім Аляксандр Баршчэўскі даў паясненні і каментарыі да прыведзеных вышэй двух дакладаў (даклады разасланы ў аддзелы) і выступіў з лекцыяй «Ленін аб літаратуры і культуры».

● У мінулым 1969 годзе ў этнаграфічным беларускім музеі ў Белавежы пабывала амаль 7 тысяч наведвальнікаў.

● 20-га студзеня ў гарадскім аддзеле БГКТ пачаліся рэпетыцыі драмгуртка, які падрыхтоўвае лірычную камедыю ў двух актах Кастуся Габурэвіча пад загалоўкам «Салодкі месяц». Рэпетыцыі адбываюцца пад кіраўніцтвам Марыі Макаль.

● Гурток БГКТ у Рыбалах (Бельскі павет) ізноў падрыхтоўвае п'есу М. Олтуха «Выбух».

● Драмгурток паўлаўскага гуртка БГКТ прыступіў да апрацоўкі мясцовага вясельнага абраду. Гурток будзе ўдзельнічаць у павятовым фальклорным аглядзе, аб'яўленым бельскім аддзелам БГКТ, ЗМВ-у, аддзелам культуры ВДК-а.

● Гурток БГКТ у Пасынках, дзе старшынёю з'яўляецца Уладзімір Весялоўскі, аплаціў ужо складчыны за 1970 год.

● У мінулым 1969 годзе бельскі аддзел БГКТ прыняў 346 чалавек у рады беларускай арганізацыі.

● У снежні мінулага года ў гуртку БГКТ у Дубяжыне (Бельскі павет) адбыліся перавыбары. Старшынёю гуртка члены БГКТ выбралі Мікалая Раманюка. Адначасова ў рады БГКТ было прынята 32 новых членаў. Налічвае зараз гурток больш як 60 асоб. На гэтым жа сходзе вырашылі прыступіць да фальклорнага конкурсу і з гэтай мэтай стварыць хор.

● 25 студзеня гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку наладзіў ёлку для дзяцей, бацькі якіх з'яўляюцца членамі беларускай арганізацыі.

● 26 студзеня сакольскі аддзел падрыхтаваў ёлку для дзяцей і вечарыну для свайго актыву.

(мх)



## Сардэчна віншуем!

**Споўнілася 65 гадоў з дня нараджэння І-га сакратара ЦК ПАРП Уладыслава Гамулкі. Сардэчна віншуючы з юбілеем, жадаем таварышу «Веславу» многіх год жыцця на славу нашай народнай краіны.**

**Нарадзіўся Ул. Гамулка 6.II.1905 г. у Кросне, у рабочай сям'і. Ад наймалодшых гадоў, працуючы слёсарам, разгортвае жывую грамадска-палітычную дзейнасць; з'яўляецца актыўным членам сацыялістычнага Аб'яднання Рабочай Моладзі «Сіла», прафсаюзаў рабочых хімічнай прамысловасці, карэспандэнтам і разносчыкам левага друку. У 1926 г. уступіў у КПП.**

**У якасці сакратара прафсаюзаў хімікаў і аднаго з кіраўнікоў левага крыла прафсаюзаў працаваў у Драгабычу, Варшаве, у Дуброўскім басейне, на Горным Шлёнску і ў Лодзі, быў арганізатарам многіх забастовак і рабочых дэманстрацый. У 1932 г., у часе канспірацыйнай канферэнцыі дэлегатаў левага крыла прафсаюзаў тэкстыльшчыкаў у Лодзі, быў цяжка паранены паліцыяй, арыштаваны і асуджаны на 4 гады турмы. Звольнены праз два гады з увагі на дрэнны стан здароўя, працягвае рэвалюцыйную дзейнасць на Шлёнску ў якасці сакратара Акруговага камітэта КПП. У 1936 г. зноў быў арыштаваны і асуджаны на 7 гадоў турмы, у якой знаходзіўся да выбуху II сусветнай вайны.**

**У верасні 1939 г. выбраўся з турмы ў Серадзы і дастаўся да Варшавы; разам з іншымі камуністамі прымаў удзел у абароне яе, а пасля капітуляцыі прабраўся ў Львоў, дзе працаваў аж да часу нападзення гітлераўскай Германіі на СССР.**

**У 1942 г., ад моманту ўзнікнення Польскай рабочай партыі, быў адным з яе кіруючых дзеячоў. З'яўляўся сакратаром варшаўскай арганізацыі ППР і членам ЦК, а ад 1943 г. — генеральным сакратаром ЦК ППР. У часе акупацыі Ул. Гамулка імкнуўся да згуртавання ўсіх патрыятычных сіл у Нацыянальным фронце з мэтай вядзення збройнай барацьбы з акупантам, быў адным са стваральнікаў ГЛ і АЛ, адным з ініцыятараў КРН.**

**Вызваленне краіны, узнікненне і ўмацаванне народнай улады, гаспадарчая адбудова краіны непарыўна звязаны з дзейнасцю Ул. Гамулкі, які ад 1945 г. абавязкі генеральнага сакратара партыі спалучаў з пасадай віцэ-прэм'ера і міністра Вернутых зямель. У 1947 г. быў выбраны паслом у Заканадаўчы сейм.**

**У 1948 г. — у выніку неабгрунтаваных і крыўдных палітычных закідаў — Ул. Гамулка быў адхілены з пасады сакратара партыі, у 1949 г. — выведзены са складу ЦК ПАРП і ўрада, а ў 1951 г. — арыштаваны.**

**У канцы 1954 г. Ул. Гамулка быў звольнены, а затым былі адклікаты беспадстаўныя палітычныя абвінавачванні. На VIII Пленуме ЦК у 1956 г. зноў увайшоў у склад ЦК і быў выбраны ў Палітычнае бюро і на пасаду І сакратара ЦК ПАРП. Гэтыя абавязкі даверыў яму Цэнтральны Камітэт як на III, так і на IV і V З'ездах партыі. З'яўляецца паслом у Сейм ад 1957 г. і членам Рады дзяржавы.**

## ЗВАРОТ КАМЭНДЫ ГУФЦА ЗГП у Гайнаўцы

Камэнда гуфца ЗГП у Гайнаўцы звяртаецца з заклікам да ўсіх членаў нашай арганізацыі дапамагчы ў збіранні экспанатаў для Беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы.

Збіранне экспанатаў мае велізарнае значэнне для выратавання помнікаў народнай культуры. Асабліва важнымі былі б наступныя помнікі:

1. Даўнейшая вопратка і народныя касцюмы (вышываныя кашулі, блузкі, саяны і г.д.)

2. Вышываныя тканіны (даўнейшыя ручнікі, макаткі і г.д.).

3. Прадметы аздобленыя, напрыклад, разьбой на дрэву (люлькі, ляскі (палачкі) і г.д.)

4. Розныя аздобы, як папяровыя фіранкі, выцінанкі і г.д.

5. Зоркі, якія носяць дзеці на Каляды, велікодныя пісанкі.

6. Дзіцячыя цацкі.

Музей збірае прылады працы і вырабы кавалёў, бандароў, ганчароў, сталяроў, сельскагаспадарчыя прылады для апрацоўкі зямлі, прадметы з хатняй гаспадаркі, прылады, якія прымяняліся пры гадоўлі жывёлы, пры лоўлі рыбы, на паляванні, і ўсе іншыя даўнейшыя прадметы, якія можна знайсці на вёсцы.

Для музея неабходна збіраць толькі прадметы, зробленыя жыхарамі вёскі і вясковымі рамеснікамі. Не трэба збіраць прамысловых вырабаў. Кожны экспанат павінен мець дакументацыю ў выглядзе карткі паперы з наступнымі данымі, якія б датычылі прадмета:

1. Назва прадмета (назва павінна быць аўтэнтычная, такая, якая ўжываецца ў данай вёсцы).

2. Дзе быў выкананы прадмет; у выпадку, калі быў выкананы ў іншай мясцовасці, падаць, якім чынам трапіў у вёску (ці куплены на рынку, ці ад нейкай асобы).

3. Хто выканаў даны прадмет і калі (у выпадку, калі дакладна даведацца не ўдасца, падаць прыблізную дату).

4. Да якога года быў ужываны (менавіта гэты прадмет).

5. Хто аддаў прадмет-помнік.

6. Хто яго атрымаў і калі.

Увага! Экспанат без спамянутых вышэй дадзеных не ўяўляе сабой ніякай навуковай вартасці.

Аб сабраных экспанатах просім паведаміць праўленню аддзела БГКТ у Гайнаўцы, вул. Вызвалення 6, альбо Камэндзе гуфца ЗГП у Гайнаўцы.

Да таго часу, пакуль экспанаты забярэ праўленне аддзела Беларускага таварыства, просім перахоўваць іх у будынку школы.



Замяло, завеяла... | Фота Уладзімір Паўлючук

# ◇ Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі



## СВЕТ

### ЗМЕНЫ Ў ЧЭХАСЛАВАКІІ

У Чэхаславакіі адбыўся чарговы пленум Цэнтральнага Камітэта КПЧ. Пленум разгледзеў кадравыя пытанні, а ў другім пункце парадку дня — гаспадарчую сітуацыю краіны.

Пленум ЦК КПЧ прыняў да ведама справаздачу Прэзідыума ЦК аб правядзенні кадравых змен. Пленум ЦК КПЧ, між іншым, зацвердзіў адрачэнне ад функцыі члена ЦК А. Дубчэка, якое ён злажыў згодна з пастановай Прэзідыума ЦК партыі.

Пленум прыняў адрачэнне ад функцыі члена Прэзідыума ЦК КПЧ Ольджыха Чэрніка, які аднaчасова адрокся ад пасады старшыні федэратыўнага ўрада, Карла Полачэка, які аднaчасова адрокся ад функцыі старшыні Цэнтральнай рады прафсаюзаў і Стэфана Садоўскага, які адрокся аднaчасова ад функцыі першага сакратара КП Славакіі.

Новым старшынёй федэратыўнага ўрада назначаны др Любамір Штроўгал. На першага сакратара ЦК КП Славакіі пленум прапанаваў Йозэфа Ленарта.

### ПАДТРЫМКА

У Вашынгтоне праходзіла канферэнцыя кіраўнікоў буйнейшых яўрэйскіх арганізацый ЗША.

Прэзідэнт Ніксан у сваім пасланні канферэнцыі пацвердзіў намер ЗША і надалей умацоўваць ваенную магутнасць Ізраіля.

«Злучаныя Штаты гатовы пастаўляць ваенную амуніцыю для падтрымкі намаганняў дружалюбных дзяржаў, якой з'яўляецца Ізраіль, — гаворыцца ў пасланні. — Злучаныя Штаты аказваюць падтрымку сваім сябрам. Ізраіль з'яўляецца адным з сяброў».

Кампанія праізраільскіх сіл у ЗША яшчэ раз сведчыць аб тым, што палітыка Тэль-Авіва, асуджаная народамі свету, сустракае падтрымку амерыканскага ўрада, які, заяўляючы аб сваім імкненні да міру на Блізкім Усходзе, фактычна актыўна садзейнічае захаванню напружанасці ў гэтым раёне свету.

### ПОСПЕХІ

За першыя 20 дзён студзеня гэтага года Народныя ўзброеныя сілы вызвалення, якія дзейнічаюць у правінцыі Куангчы, вывелі са строю 330 амерыканскіх ваеннаслужачых і салдат марыянетачнай арміі. Патрыёты збілі 14 самалётаў праціўніка, знішчылі 20 ваенных грузавікоў, 5 артылерыйскіх гармат і патапілі 4 транспартныя судны.

Такія даныя падало В'етнамскае інфармацыйнае агенцтва, спасылаючыся на агенцтва друку Вызваленне. (к)



## БССР

### КПЧ

У Беларусі прабывала дэлегацыя партыйных работнікаў Камуністычнай партыі Чэхаславакіі. Узначальваў дэлегацыю загадчык аддзела асветы, навукі і культуры ЦК КПЧ Юрай Седлак. У саставе дэлегацыі знаходзіліся — намеснік загадчыка аддзела асветы, навукі і культуры ЦК КПЧ па пытаннях культуры Павел Баяр, загадчык аддзела асветы, навукі і культуры бюро ЦК КПЧ па кіраўніцтву партыйнай работай у чэшскіх абласцях Антанін Ванек, загадчык аддзела асветы, навукі і культуры ЦК Камуністычнай партыі Славакіі Іван Літвай, памочнік загадчыка аддзела асветы, навукі і культыры ЦК КПЧ Йозэф Машэк.

Госці наведалі Акадэмію навук Беларускай ССР. Затым былі прыняты ў ЦК Камуністычнай партыі Беларусі і мелі гутарку з сакратаром ЦК КПБ С. Пілатовічам.

Чэхаславацкія госці сустрэліся ў Доме работнікаў мастацтваў з кіраўнікамі і сакратарамі партыйных арганізацый творчых саюзаў Мінска.

### НАРАДА - СЕМІНАР

Пытанням падрыхтоўкі будаўніча-мантажных арганізацый да пераводу на новую сістэму планавання і эканамічнага стымулявання была прысвечана рэспубліканская нарада-семінар, якая адбылася ў канцы студзеня ў Мінску.

У выступленнях вялікая ўвага прысвячалася таксама неабходнасці ўдасканалення матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння будаўніцтва, эканамічнай і фінансавай службаў, ад падрыхтоўкі якіх будзе залежаць паспяховы перавод будаўнічых арганізацый на новыя ўмовы гаспадарання.

### СОРАК

Калектыў мастацкай самадзейнасці Рыжкаўскага сельскагаспадарчага клуба старэйшы ў Шклоўскім раёне. Нядаўна яго хору споўнілася сорак гадоў.

### СУСТРЭЧА

У Мінскай Вышэйшай партыйнай школе адбылася сустрэча беларускіх паэтаў са слухачамі школы.

### АДЗЕННЕ

Швейныя фабрыкі Баранавіч, Гродна, Брэста і Дзяржынска пачалі пашыўку новай школьнай формы, якую зацвердзіла для навучэнцаў рэспублікі Міністэрства асветы Беларускай ССР.

Форма для дзяўчынак складаецца з сукенкі карычневага колеру з паўваўнянай тканіны з двума камплектамі каўнерчыкаў і манжэт з белай тканіны — штодзённым і выхадным. Да формы надаецца фартух чорнага колеру з баваўнянага папліну. Касцюмы для хлопчыкаў рыхтуюцца з паўваўнянай тканіны шэравата-бежавага колеру. (ся)



## ПОЛЬШЧА

### 1969 Г.

Галоўнае статыстычнае бюро (ГУС) апублікавала камюніке аб выкананні. Нацыянальнага гаспадарчага плана ў 1969 годзе. З камюніке вынікае, што нацыянальны даход узрос на працягу 1969 года на 3,5 працэнта, у той час, калі план прадбачваў узрост на 5 працэнтаў. Слабейшы тэмп гаспадарчага развіцця выкліканы быў перш за ўсё змяншэннем чыстай прадукцыі сельскай гаспадаркі, што ў сваю чаргу выклікана было неспрыяльнымі атмасфернымі ўмовамі. Выдаткаванне нацыянальнага даходу ўзрасло агулам на 4 працэнты і было крыху ніжэйшае ад планавага (5 прац.). Вартасць валавой прадукцыі прамысловасці ўзрасла на 8,9 працэнта (план прадбачваў узрост на 8,2 прац.). У 1969 годзе польская прамысловасць выпрадукавала 11,3 мільёнаў тон сталі, 135 мільёнаў тон вугалю, 60 мільярдаў кілаватагадзін электрычнай энергіі, 50 тысяч аўтамашын, 41 тысячу грузавых машын, 59 караблёў. Валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі зменшылася прыблізна на 8 працэнтаў, а ў жывёлагадоўлі праявіўся пэўны нязначны ўзрост.

### АХОВА ПОМНІКАЎ МАСТАЦТВА

Сеймавая камісія культуры і мастацтва дыскутавала над праблемамі гандлю прадметамі мастацтва. Паслы звярнулі ўвагу на неабходнасць поўнай рэалізацыі сеймавай пастановы з 1962 года аб ахове помнікаў культуры. Была звернута ўвага на факт, што многа прадметаў-помнікаў культуры вывозіцца за мяжу, нягледзячы на існуючую праўную забарону.

### ПЛАЗМА

Польскія вучоныя з Інстытута ядзерных доследаў у Сверку пусцілі ў рух першую ў краіне плазмавую печ для плаўкі сталі і іншых металаў. Сталь плавіцца тут пры дапамозе плазмы, гэта значыць струменя газу пры тэмпературы каля 12—15 тысяч градусаў. Метал у такіх умовах хутка плавіцца, а якасць сталі перавышае сталь, якая выплаўляецца традыцыйнымі метадамі. Польская печ выклікала зацікаўленне за мяжою — у Амерыцы, ФРГ і Англіі.

### ЗНІЖКА

Дзяржаўная камісія цэн знізіла цэны некаторых прамысловых вырабаў трывалага карыстання. Халадзільнік «Сілезія», які нядаўна каштаваў 9000 злотых, зараз каштуе 7.700 злотых, а халадзільнік гэтай самай маркі, які каштаваў 9300 зл., цяпер каштуе 8000 злотых. Да 11 тысяч злотых зніжана цана 23-цалёвых тэлевізараў «Шэхерэзада» і «Топаз» (першы з іх каштаваў 12.200 зл, а другі 11.800 зл), а цана радыёпрыёмніка «Сільвія» зніжана з 1.100 зл. да 800 зл.

(п)



## ВАЯВОДСТВА

### ЗАСЛУЖАНЫ ДЛЯ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

З нагоды 25-годдзя народнай улады ў нашай краіне Ваяводская рада народовая ў Беластоку ўстанавіла адзнаку «Заслужаны для Беласточчыны».

Упершыню гэтая адзнака была ўручана для 36 асоб і для калектыву Беластоцкага прадпрыемства ваўнянай прамысловасці імя Сяржана ў Беластоку. Сярод ўзнагароджаных адзнакай «Заслужаны для Беласточчыны» Мікалай Парфенюк — ахвярны змагар за народную ўладу ў Бельску і Піліп Кізевіч — вядомы яшчэ да вайны беластоцкі грамадскі дзеяч.

### 10 НАЙЛЕПШЫХ

Як штогод, «Газета Беластоцкая» правяла конкурс-плебісцыт, мэтай якога было выбраць 10 найлепшых спартсменаў Беласточчыны. Першае месца сярод гэтай дзесяткі найлепшых удзельнікі конкурсу-плебісцыту прызналі спартсмену студэнцкага спартыўнага аб'яднання (АЗС) у Беластоку Ежы Мельцеру.

### ЗЛАЧЫНСТВА Ў НАВАСЁЛКАХ

Акружная камісія па даследванню гітлераўскіх злачынстваў праводзіць доследы адносна масавых гітлераўскіх злачынстваў у вёсцы Навасёлкі. Усіх грамадзян, якія штоколеч ведаюць пра гэтыя злачынствы, камісія просіць наладзіць кантакт з яе працаўнікамі. Бюро камісіі знаходзіцца пры ваяводскім судзе ў Беластоку.

### ПАДЛІКІ Ў ГУРТКАХ

Сельскагаспадарчыя гурткі Беластоцкага ваяводства праводзяць зараз гадавыя падлікі вынікаў сваёй гаспадарча-грамадскай дзейнасці. Такія падлікі ўжо закончыла звыш 700 сельскагаспадарчых гурткоў.

### МЕЛІЯРАЦЫЯ

Прэзідыум ПРН у Гайнаўцы апрацаваў праект плана гаспадарчага развіцця павета ў 1971—75 гадах. Гэты план прадбачвае меліярацыю 1256 гектараў сенажацяў, асабліва ў далінах рэк Нарвы і Нараўкі.

### БАРАЦЬБА СА СНЕГАМ

Не спыняецца барацьба са снежнай стыхіяй. Яшчэ ў суботу 31 студзеня ў снегавых заносах застрала аж 13 цягнікоў. Асабліва цяжка было на чыгуначных дарогах: Беласток—Чаромуха, Беласток—Зубкі і Беласток—Элк. На шасейных дарогах, асабліва на дарогах: Беласток—Нараў, Сямяцічы—Кляшчэлі і на некаторых іншых — таксама немагчыма было праехаць. Пры ўборцы снегу працавала звыш 800 чыгуначнікаў. Дапамагалі ім салдаты і мясцовае насельніцтва. Ачыстку шасейных дарог праводзіла амаль 2800 чалавек. Грамадскай ахвярнасцю ў гэтай працы адзначыліся жыхары паветаў: Гайнаўскага, Манецкага і Лапскага. (вр)




**Niedziela 8. 11.**

8.35 Program dnia; 8.40 Dla młodych widzów: ,,Zamiana'' — film TVP (Czterej pancerni i pies''); 10.00 TV Kurs Rolniczy: ,,Produkcja młodego bydła rzeźnego''; 10.35 ,,Przypominamy, radzimy''; 10.45 ,,Bawcie się z nami''; 11.30 ,,Stare sobory Moskwy'' (,,W świecie sztuki'') (Moskwa); 12.00 Dziennik; 12.15 ,,Przemiany''; 12.45 PKF; 13.00 Konkurs skoków narciarskich (Zakopane); 14.00 Mistrzostwa Europy w jeździe figurowej na lodzie — jazda dowolna mężczyzn (Leningrad); 16.00 ,,Hektor Kamieniecki'' — film TVP (,,Przygody pana Michała''); 16.30 ,,Piórkiem i węglem''; 16.50 ,,Wielka gra''; 17.40 Estrada Literacka: E. Bryll — (,,Nowa poezja polska''); 18.20 Uroczysty koncert z okazji 25-lecia ,,Trybuny Robotniczej''; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 ,,Ojciec narzeczonej'' — film fab. USA; 21.35 Recital piosenkarski Joanny Rawik; 22.05 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 9. II.**

14.25 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla dzieci: ,,Zwierzyniec''; 17.35 ,,Eureka''; 18.00 Sprawozdanie z Mistrzostw Europy w jeździe figurowej na lodzie — pokazy mistrzów (Leningrad); 20.00 Dziennik; 20.30 Teatr TV: U. Betti — ,,Trąd w Pałacu Sprawiedliwości''; 21.50 ,,Polski bohater roku 1969''; 22.30 Dziennik.

**Wtorek 10. II.**

9.00 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — A. Fredro — ,,Zemsta''; 9.30 Przerwa; 10.00 Dla szkół: (kl. IV) ,,Kurpiowskie wycinanki''; 10.20 ,,Kwadrans po nieparzystej'' — film TVP (,,Czterej pancerni i pies''); 11.15 Przerwa; 12.00 ,,Wybieramy zawód''; 12.20 Przerwa; 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: ,,Pomoc przy porodzie i pielęgnacja noworodka''; 13.15 Przerwa; 14.25 i 22.20 Politechnika TV I roku. Matematyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Telewizyjny Ekran Młodych; 18.45 ,,Komunikacyjne perspektywy''; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 ,,Kwadrans po nieparzystej'' — film TVP (,,Czterej pancerni i pies''); 21.05 ,,Muzyka lekka, łatwa i przyjemna''; 22.00 Dziennik.

**Środa 11. II.**

9.00 ,,Ścigany'' — film; 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — ,,Powstanie Styczniowe''; 10.25 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — ,,Energia potencjalna i kinetyczna''; 11.25 Przerwa; 14.25 i 22.25 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla młodych widzów: ,,Kino Bolka i Lolka''; 17.15 ,,124 dni w Smolnym'' (,,Śladami Lenina''); 17.40 TV Kurier Warszawski; 17.55 Magazyn NTP; 18.10 ,,Wyprawy'' — film; 18.40 ,,Orły na sarkofagu''; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 ,,Ścigany'' — film; 20.55 ,,Światowid''; 21.25 PKF; 21.35 ,,Kasydy mauretańskie'' — widowisko muzyczne; 22.05 Dziennik.

**Czwartek 12. II.**

8.15 Matematyka w szkole: ,,Rozwiązywanie zadań geometrycznych metodą współrzędnych''; 8.45 Przerwa; 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — ,,Polen, raus!''; 10.25 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — ,,Bolesław Prus''; 11.25 Przerwa; 12.45 i 13.55 Mechanizacja Rolnictwa: ,,Mechanizacja zbioru zbóż kombajnami''; 13.15 Przerwa; 14.25 i 22.40 Politechnika TV I roku. Fizyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla młodych widzów: ,,Ekran z bratkiem''; 17.55 TV Kurier Kielecki; 18.10 ,,Odszkodowanie'' (,,Czwarta zmiana''); 18.40 ,,Sezam muzyczny'' — A. Vivaldi — ,,Concerto Grosso''; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 ,,Giełda piosenki''; 20.35 Teatr Kobra: K. Korkozowicz — ,,Dom w górach''; 21.35 ,,Rozmowy o książkach''; 21.50 ,,Polska zza siódmej miedzy''; 22.20 Dziennik.

**Piątek 13. II.**

10.00 ,,Wojenna przyjaźń'' — film fab. węg.; 11.40 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie plastyczne — ,,Jak powstaje rzeźba''; 12.25 Przerwa; 14.25 i 22.55 Politechnika TV I roku. Fizyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla młodych widzów: ,,Szkoła Jungów Latającego Holendra''; 17.40 TV Kurier Mazowiecki; 17.55 ,,Nie tylko dla pań''; 18.15 Magazyn ,,Postęp''; 18.45 ,,Grają i śpiewają polskie zespoły jazzowe''; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Teatr TV: M. Bułhakow — ,,Ucieczka''; 21.55 ,,Gdzie paczek sześć...'' — program ekonomiczny; 22.25 Dziennik.

**Sobota 14. II.**

10.00 ,,Piotruś Partyzant'' — film fab. jugosł.; 11.40 Przerwa; 13.50 TV Kurs Rolniczy: ,,Opas bydła dorosłego''; 14.30 Mistrzostwa Świata FIS w narciarstwie w konkurencjach klasycznych. Konkurs skoków. (Wysokie Tatry); 16.30 Program tygodnia; 16.55 Dziennik; 17.10 Dla młodych widzów: ,,Konkurs 5 milionów''; 18.10 ,,Piosenki radzieckie''; 18.35 ,,Pegaz''; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.20 ,,Muzyka i...''; 21.20 Dziennik; 21.40 Kronika Mistrzostw Świata FIS w narciarstwie; 22.00 Kino Interesujących Filmów: ,,Następcy tronów'' — film fab. wł.




7.10 Lenin organizator partii komunistycznej; 7.40 Prelekcja o II zjeździe partii; 8.00 Nowiny; 8.15 Dla dzieci. Co, jak i dlaczego? 8.45 ,,Białe góry'' — film; 9.45 Tajemnice nieznanej krainy; 10.20 Tenis, ZSRR-Węgry; 11.20 Nowiny; 14.35 Nowiny; 14.45 ,,Bohaterski czyn'' — film; 15.15 Sztafeta nowości; 16.05 Program; 16.15 W. Lenin, kronika życia i działalności; 17.00 Mistrzostwa Europy. Figurowa jazda na lodzie; 21.00 TV barwna; 21.45 Nowiny.

**Sobota, 7 luty**

6.30 Program; 6.35 Materiałoznawstwo. Uczniom technikum; 7.05 Gimnastyka; 7.30 Nowiny; 7.45 Zdrowie; 8.15 Program muzyczny; 8.45 Przemówienie przewodniczącego Związku Plastyków BSRR; 9.00 Muzyczna szkatułka; 9.15 Tydzień planety; 9.30 Zasłużony artysta ZSRR M. Kazakow; 10.15 Niezwykły wypadek — film; 10.25 Rolnicza szkoła zawodowa w Mohilowie; 10.45 Młodzież Kirgizji; 11.30 TV barwna; 12.30 Uniwersytet telewizyjny; 13.15 Nowiny; 13.20 Katedra kultury; 14.00 Wczoraj, dziś, jutro — program muzyczny; 15.00 Dzień za dniem; 15.30 Świat socjalizmu; 16.00 Nowiny; 16.05 Dokumentalny film — 1922 rok; 17.00 Mistrzostwa Europy. Figurowa jazda na lodzie; 20.00 ,,Dzień anioła'' — film; 21.20 Nowiny; 21.30 TV barwna.

**Niedziela, 8 luty**

6.30 Program; 6.35 Mechanika teoretyczna; 7.05 Gimnastyka; 7.30 Budzik; 8.00 Muzyczny kiosk; 8.30 Godzina rolnicza; 9.30 ,,Bohaterski czyn'' — film; na 25-lecie zwycięstwa; 10.25 Białe i czarne — szachmaty; 10.35 Wędrówki leśne — dla dzieci; 11.00 Program dla żołnierzy; 11.30 Starożytne sobory Moskwy; 12.00 Mistrzostwa Europy. Figurowa jazda na lodzie. Podczas przerwy Nowiny; 15.00 Przemówienie przewodniczącego prezydium Rady Najwyższej Kirgizji; 15.10 Gwiazda nad Ała-Tao — film; 15.50 TV barwna; 16.40 Koncert z Kirgizji; 18.00 W eterze ,,Młodość''; 19.00 Siedem dni, program międzynarodowy; 21.45 Pole macierzyństwa — film; 21.00 Mistrzostwa Europy; 00.00 Nowiny.

 

## ЗНЕШНЯЕ ЎПРЫГОЖВАННЕ ХАТ ПАЎДНЕВАГА ЎСХОДУ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

# ВІЛЬЧАК

Існуюць сцвярджэнні, альбом «Беларуская народная архітэктурная разьба», Мінск, 1958), што да найстарэйшых элементаў народнай архітэктурнай разьбы адносяцца вільчакі (канькі) — упрыгожанае заканчэнне верхніх канцоў вятровак з саломы. Відавочна, адсюль іх застасаванне. Вільчакі гэтыя маюць даволі прымітыўную разьбу ў выглядзе пікаў, геаметрычных фігур, птушак, конскіх галоў, закругленняў.

Аб сувязі ўмяшчэння вільчакоў на шчыце гаспадарскіх пабудоў са старадаўнімі вераваннямі ў іх сілу адстрашвання нячыстага жыхары ўжо не ўспамінаюць, а тыя, хто нават нешта чуў аб тых вераваннях, не прыдаюць паўднёва-заходніх вёсках, можна меркаваць, што былі яны запазычаны ад заходніх суседзяў — палякаў.

Сустракаюцца вільчакі надта складанай разьбы, у якіх спалучаны элементы расліннага свету з геаметрычнымі і жывёльнымі фігурамі ў нейкую цэласць. Прыкладамі могуць служыць вільчакі: ганка Максіма Гарбачука з вёскі Целушкі, ганка Генадзя Якімюка з вёскі Сабятына, хаты Аляксандра Жукоўскага з вёскі


Вільчак на хаце Я. Часновіча.




з боку франтона. На жаль, яны на тэрыторыі паўднёва-ўсходняй Беласточчыны распаўсюджаны даволі слаба — у нашым выпадку выступаюць на 18 фотаздымках хат і ганкаў. Значна больш вільчакаў сустракаецца на стадолах, пакрытых саломаю. На іх перасячэнні накладваецца лата, якая прыціскае свежа нацягнуты накот гэтаму ніякага значэння. Гутарку на гэтую тэму збываюць гумарыстычна. Выступаючыя на франтонах хат і ганкаў вільчакі служаць зараз яшчэ адным элементам дэкарацыйным. Таму традыцыйныя іх формы ўжо надта змадэрнізаваны.


Вільчак на ганку Я. Жукоўскага.

Шырока распаўсюджаная раней (зараз, як ужо ўпаміналася — толькі на стадолах) форма вільчака захавалася на шчыце хаты Яўгеня Часновіча з вёскі Гураны Сакольскага павета (гл. фотаздымак). Гэта скрыжаваныя верхнія заканчэнні вятровак, якія пры дапамозе пілачкі ўпрыгожаны ва ўзоры сіметрычна адвернутых ад сябе галоў пеўнікаў. Хоць узор даволі просты, але мае нейкую лёгкасць, характэрную ваюючым пеўням. У Бельскім і Сямяціцкім паветах вільчакі часта выступаюць у выглядзе ўпрыгожаных стрэлаў (гл. рыс. 1, 2, 3), якія маюць вышыню 0,5—1,0 м. У некаторых ніжэйшы канец выходзіць над шчытавым акенцам. Паколькі вільчакі гэтыя (рыс. 3) сустракаюцца найчасцей ў Пілікі, Бельскага павета і іншыя (гл. рыс. 4, 5, 6, 7). Выконваюцца яны з дошак пры дапамозе пілачкі і свярдзёлка. Цесля спачатку робіць на дошцы схематычны рысунак, пасля ў канцах прарэзаў свярліць дзіркі. Частка іх застаецца адразу як дэкарацыйныя элементы, іншыя служаць для залажэння ў дошку тонкай пілачкі, якою вырэзваюцца адпаведныя ўзоры. Вільчак 7 выкананы толькі пры дапамозе пілачкі.

Цэлыя кампазіцыі разьбы складаюць вільчакі, у якіх выступаюць жывёлы. Прыкладам сапраўднага мастацтва мясцовых цесляў можа служыць вільчак на ганку Язэпа Жукоўскага з вёскі Пілікі, Бельскага павета, выкананы ў 1923 г. (гл. фотаздымак 7), вільчакі на хаце Васіля Баўтручука з вёскі Плюцічы, Бельскага павета — 1947 г. (рыс. 8), Івана Высоцкага з вёскі Баркі, Сакольскага павета — 1899 г. (рыс. 9) і Івана Ігнацюка з вёскі Целушкі, Бельскага павета — 1937 г. (рыс. 10).

На ўсіх вышэй прыведзеных рысунках вільчакоў захоўваецца — незалежна ад упрыгожваючых іх узораў — тэндэнцыя звужвання ад падставы да вяршыні. Робіцца гэта дзеля таго, каб вільчак больш гарманійна заканчваў дах і каб хутчэй аплывалі па ім атмасферныя апады.

**Ул. Юзвюк**







### ПРАЦЯГ ГАРАДОЦКАЙ ГІСТОРЫІ

Пісалі мы аб рамонце лекарні ў Гарадку, аб тым, як будаўнічая фірма зусім не шануе гарадоцкай медыцыны. Проста нічога не зрабілася, каб хутка закончыць рамонт. Павятовы аддзел здароўя прыслаў нам пісьмо, якое добра прыдатнае да напісання на яго падставе частушак. Гарадок жа слынны частушкамі! Вось тое пісьмо.

«Аддзел здароўя і грамадскай апекі Прэзідыума павятовай рады ў Беластоку ветліва выясняе, што 10 ліпеня 1968 года быў падпісаны дагавор на выкананне рамонту ў пункце аховы здароўя ў Гарадку з рамонтна-будаўляным прадпрыемствам у Беластоку, што месціцца на вуліцы Варшаўскай 21. Тэрмін заканчэння работ быў устаноўлены да 30 верасня 1969 года. Адбылося некалькі сустрэч з дырэкцыяй прадпрыемства на тэму слабых тэмпаў работ. Аднак не прынесла гэта ніякіх вынікаў. 23 чэрвеня з подпісам намесніка старшыні павятовай рады інж. Тадэуша Вонска было выслана інтэрвенцыйнае пісьмо дзеля прыспяшэння рамонту. І гэта інтэрвенцыя не дала ніякіх вынікаў, на будове цэлымі тыднямі не было ніводнага рабочага.

15 лістапада за нашай інтэрвенцыяй адбылася сустрэча ў дырэктара прадпрыемства інж. А. Краўчука ў прысутнасці намесніка старшыні павятовай рады мгр В. Тафткевіча і кіраўніка аддзела здароўя лек. мед. Т. Шэляхоўскага. Запозненасць рамонту дырэктар прадпрыемства тлумачыў недахопам людзей і некаторых будаўнічых матэрыялаў. Аднак, галоўнай прычынай палічыў ён тое, што інвестар не даставіў помпы, патрэбнай цэнтральнаму абаграванню. У заканчэнні сустрэчы дырэктар паабяцаў, што ў днях 18—19 лістапада накіруе ў Гарадок адпаведную брыгаду людзей для прыспяшэння рамонту. А ад моманту, калі будзе дастаўлена інвестарам успомненая помпа, рамонт закончыцца на працягу 20 дзён.

Помпу даставілі мы 20 лістапада. На жаль, і на гэты раз устаноўлены прадпрыемствам тэрмін не быў датрыманы ім. Мы зноў інтэрвенявалі на прадпрыемстве, у дырэктара інж. Краўчука, дабіваючыся запэўнення, што рамонт будзе закончаны ў месяцы студзені 1970 года».(...)

У палове студзеня «Ніва» пацікавілася, ці прадпрыемства памятае аб сваіх абяцанках? Аказалася, не вельмі памятае і не вельмі хоча памятаць іх.

Гарадоцкая гісторыя гэта з'яўляецца яшчэ адным прыкладам пастаяннага і шматгадовага балагану ў рамонтна-будаўнічых прадпрыемствах.

### АЎТОБУСА ДА СУШЧЫ ЯШЧЭ НЕ БУДЗЕ

У нумары 48 нашага тыднёвіка пісалі мы аб справе і патрэбе ўстанаўлення аўтобуснай лініі Беласток—Сушча. У сувязі з гэтым атрымалі мы пісьмо з подпісам дырэктара Мешанага аддзела беластоцкага ПКС, мгр Станіслава Дэмбоўскага.

Дырэктар Дэмбоўскі піша: «У адказ на надрукаваную заметку «Дзядавец запэўніў» у тыднёвіку «Ніва» № 48 у справе наладжання аўтобуснай камунікацыі па маршруту Беласток—Новая Воля—Сушча, Мешаны аддзел ПКС у Беластоку паведамляе, што няма магчымасці прыхіліцца да просьбы жыхароў Сушчы і навакольных вёсак з прычыны той, што ўсе нашыя аўтобусы ўжо выкарыстаны (...)

Гэта справа будзе разгледжана яшчэ раз у месяцы кастрычніку 1970 года ў час апрацоўвання раскладу язды ПКС на гады 1971/72.»

Што ж можна дадаць да гэтага пісьма? Хіба тое, каб ПКС не забыў гэту сваю абяцанку і шчыра пастараўся даць аўтобус для Сушчы ў наступным годзе. Як кажуць: добра і тое.

(ся)




### АЎТОБУС У ОРЛЮ

У сваіх падарожжах часта наведваю знаёмых сялян у вёсцы Рэдуты, з якімі праводжу доўгія размовы на розныя касмічныя тэмы. Каб дайсці аднак да Рэдутаў, трэба раней даехаць да Орлі. Да Орлі едуць аўтобусам.

Арлянскі аўтобус ад'язджае — як і ўсе мясцовыя аўтобусы — з бельскага вакзала. Арлянскі аўтобус курсуе толькі да Орлі і назад. З Бельска ў Орлю ўсяго 12 кіламетраў.

Стоячы на бельскім вакзале ў марозны студзеньскі дзень, як мага лепш можна адчуць і ўбачыць перавагу традыцыйнай вясковай вопраткі над сучаснай, гарадской. Вясковыя цятулі стаяць нерухома на марозе, бы шырокія кулі саломы — на іх тоўстыя, саматробныя валёнкі, ды кажухі доўгія па пяты, галовы абкручаныя шырокімі, ваўнянымі хусткамі. Побач дзяўчаты ў гарадской вопратцы скачуць, бы козы па снягу, беспаспяхова прабуючы ашукаць мароз. Дзядзька з нагамі тоўстымі, як стаўбы, нацягнуў нават два кажухі — адзін на другі, ды цёплую шапку-вушанку, побач малады хлапец без шапкі і ў пальтосіку неспакойна хухае сабе ў бараду.

Але вось і аўтобус. Натоўп гвалтоўна замітусіўся. Змярцзелыя на марозе дзядулі і цятулі раптам ажылі, усе заварушыліся, усе ўглядаюцца ў адзін пункт: у дзверы аўтобуса, усе адной думкі: як першаму ўхапіцца за клямку гэтых дзвярэй.

Аўтобус стаў. Натоўп хлынуў да дзвярэй з такім імпэтам і прылёг так шчыльна, што адкрыць іх не ўдаецца не толькі здароваму дзядзьку, але і шафёру, які знаходзіцца ў аўтобусе. Шафёр, як шафёр,ругаецца на чым свет стаіць, ды абзывае народ брыдкімі словамі. Народ не крыўдзіцца. Як бы і не чуў шафёрскіх лаянак, лезе ў вузкую шчыліну аўтобусных дзвярэй, аж трашчаць аўтобусныя рамы.

На бельскім вакзале купляюць аўтобусныя білеты загадзя. Усе пасажыры маюць білеты ў кішэні. Існуе поўная ўпэўненасць, што аўтобус забярэ ўсіх прысутных. Падарожжа з Бельска ў Орлю працягваецца ўсяго 15—20 мінут, і ніхто — стоячы ці седзячы — падарожжам гэтым занадта не змучыцца. Чаму ж тады з такім размахам пхаецца ў дзверы мясцовы народ, рызыкуючы вярнуцца ў хату з парванай вопраткай, памятымі, знішчанымі пакупкамі і г.д.? Ці не лепш увайсці звычайна, спакойна?

Аўтобус аднак рушыў. Аўтобусны народ загаманіў. Размовы вядуцца тут на ўвесь голас, а нават яшчэ галасней. Размаўляюць пры тым амаль выключна па-беларуску, а дакладней кажучы, на мясцовай арлянскай гаворцы.

Дзіўная рэч. Дзяржаўны аўтобус, аўтобус дзяржаўнага прадпрыемства, якое носіць афіцыйнае названне ПКС, стаецца на гэты час як быццам бы фамілійнай уласнасцю арлянцаў. Уласнасцю сваіх, суседзяў, людзей у доўгіх кажухах, гаворачых «па-простаму». Парассядаліся тады раскошна на гэтыя 15 мінут цётка ля цёткі, абладаваныя пакупкамі, ды вядуць спакойную, няспешлівую размову аб сённяшніх пакупках, аб сваіх хатніх справах, аб усім. Аднастайна гучыць матор, за рулём злосны шафёр. Яго справа пільнаваць руля. За вакном мільгацяць ахутаныя ў снезе хаты прыдарожных вёсачак. Недзе далёка сотні высокіхураднікаў гартае важныя паперы, падпісвае дзелавыя распараджэнні на тое, каб аўтобус ў Орлю мог курсаваць пастаянна і нязменна. А мы сядзім сабе ды гутарым, быццам ля печы, быццам ніколі нічога. Ці можна дараваць сабе гэтую роскаш і правесці гэтых 15 мінут дарогі стоячы? Не, не можна. І таму арлянскія падарожнікі з такім імпэтам пхаюцца, каб увайсці першымі і заняць сядзячае, ды самае лепшае месца ў ПКС-е.

Зразумеўшы гэта ў канцы свайго падарожжа ў Орлю, перастаў я здзіўляцца паводзінамі пасажыраў аўтобуса і перастаў на іх абурацца. Хай будзе так: людзі пхаюцца, бо адчулі свой ранг, важнасць і права распіхацца ў дзвярах аўтобуса. Хай тады сабе папхаюцца.

А ўсё ж такі пхацца сілком у аўтобус — крыху брыдка. Таму, ідучы сваёй дарогаю ў Рэдуты, пастанавіў я кінуць лозунг: давайце будзем сваю годнасць і сваю важнасць распазнаваць не паводле месца, занятага ў аўтобусе, але паводле месца, занятага перад аўтобусам, стоячы цярпліва ў чарзе. Так прынамсі робяць жыхары многіх вядомых па сваёй высокай культуры гарадоў.

**Ул. Паўлючук**






 

 

ПАЗНАЙ СВАЮ ВАКОЛІЦУ

# ВЫСПА СТАРА-СЛАВЯНШЧЫНЫ на Беласточчыне

Калі вучоныя гавораць, што беларуская мова самая славянская з усіх іншых, а гаварыў аб гэтым яшчэ Адам Міцкевіч, дык мова беларускіх людзей Бельшчыны і Гайнаўшчыны мае ў сабе найбольш старажытнаславянскіх слоў. Услухоўваючыся ў іх, можна прыблізна адчуць музыку мовы той, якая некалі з'яўлялася агульнай усім славянам, а вядомай цяпер толькі па евангельскіх стара-царкоўных тэкстах ад IX і X стагоддзяў нашай эры. Карысталіся ёю апосталы Славяншчыны, Кірыл і Мяфодзі, місіянары хрысціянства і першыя перакладчыкі святых пісанняў з грэчаскай і лацінскай моў.

Гаворачы аб выспе стараславяншчыны на Беласточчыне, маю на ўвазе тэрыторыю ад даліны рэчкі Нарвы па межы прыгарадніх ваколіц Бельска ды Гайнаўкі: паўночныя часткі тых паветаў. Тут мова хвілямі цалкам падобная да мовы дакументаў Вялікага Літоўскага Княства. Згодна з ацэнкамі мовазнаўцаў — дакументы былі пісаны на старажытнабеларускай мове, якая вынікла ў XIV—XV стагоддзях.

У гаворцы беларускіх людзей на ўказанай тэрыторыі Бельскага і Гайнаўскага паветаў асабліва багата стараславянскіх моўных фармацый у групе дзеясловаў, якія выказваюць аспект незакончанага, але шматкратнага дзеяння. Прыклады: носити, бити, просити, куповати, пасти, отирати, поити, лизати, мазати, нападати, будити, ковати, орати, возити, копати, красти, кропити, крыти, ставити. Пералічаныя словы так сама выглядаюць у стараславянскіх тэкстах. Аспект закончанага дзеяння набываюць дзеясловы дзякуючы прыстаўкам найчасцей. Вось бельска-гайнаўскія стараславянскія ідэнтычнасці: нэсти і донэсти, понэсти, вынэсти — прыстаўкі ўказваюць таксама на род дзеяння; писати і написати, поити і напоити, пасти і напасти, ставити і наставити, мазати і помазати, копати і подкопати. Тоесамасць са стараславяншчынай і ў загадным ладзе: купуй, нэси, проси.

Колькасць моўных фармацый у групе назоўнікаў, ідэнтычных са стараславянскімі, тут, несумненна, меншая, шмат меншая; іх значэнне часамі крыху іншае. Напрыклад, у Рыбалах яшчэ можна пачуць: отроки пошли молотити. Слова «отроки»» абазначае мужчын. У стараславянскай мове «отрок» абазначала: хлопец, слуга. У множным ліку назоўнага склону: «отроци». Іншы назоўнік: «попэл». Кажуць: насыпати попэлу. Далейшыя назоўнікі: кал, мати, корэнь, квас, воз.

Фармулюючы свае назіранні, думаў я аб тым, каб выклікаць цікавасць да гэтых бурштынаў стараславяншчыны ў нетрах нашай беларусчыны. За нараўскімі плёсамі — рэха колішняй славянскай мовы, якой тысячу год назад гаварыла амаль палова Еўропы, тады каланізаванай славянамі.

**Сакрат Яновіч**

## УВАГА, ПАДПІСЧЫКІ!

Тым нашым падпісчыкам, якія рабілі падпіску, высылаючы грошы ў І аддзел «Руху» ў Беластоку, паведамляем, што некалькі месяцаў таму гэты аддзел змяніў сваё конта. Мы, на жаль, аб гэтым даведаліся толькі цяпер і, змяшчаючы ў сваёй «стопцы» старое конта, маглі (несвядома) увесці многіх у зман. Ёсць ужо такі сігнал з Варшавы, што зробленая падпіска (на старое конта) не дастаўляецца. Таму просім у падобных выпадках звяртацца па адрасу:

I Oddział Rejonowy PUPiK „Ruch", Białystok, ul. Lipowa 32 a.

Адначасова падаем новы нумар конта, на які і трэба ўплачваць грошы на падпіску «Нівы»:

konto I Oddziału Rejonowego PUPiK „Ruch" w NBP Nr 150-6-161 w Białymstoku.

(Усё гэта не датычыць тых падпісчыкаў, якія робяць падпіску на пошце, ці ў пісьманосцаў).

## ДАЛЕЙШЫЯ ЭКСПАНАТЫ ПАСТУПАЮЦЬ У МУЗЕЙ ПОЛЬСКАГА ВОЙСКА

На пасяджэнні прэзідыума акруговага праўлення ПТТК у Беластоку намеснік старшыні праўлення Пётр Сідарчук перадаў кіраўніку Музея польскага войска маёру Зыгмунту Каштыле радыёпрыёмнік, выкананы беластоцкім падполлем у 1943 годзе. Гэты радыёпрыёмнік быў змантаваны невядомым чалавекам, перададзены праз сувязнога Пятру Сідарчуку, а пасля выкарыстоўваўся падпольшчыкамі ў час гітлераўскай акупацыі.

Грамадзянка Марыя Палонская з Варшавы перадала Музею войска багатыя матэрыялы, якія засталіся ў яе па памершым бацьку мгр інж. Юзэфе Юшчыку. Матэрыялы датычаць перыяду Касцюшкоўскага паўстання.

Музей польскага войска ў Беластоку просіць і далей супрацоўнічаць з ім. Асабліва пільна музей шукае экспанатаў і памятак, звязаных з арганізацыяў выстаўкі пад загалоўкам «25-ая гадавіна перамогі», у якой музей хоча паказаць барацьбу беластачан на ўсіх франтах II сусветнай вайны.

ЧАМУ ГАЙНАЎШЧЫНА АПОШНЯЯ?




Сёння прадстаўляем слова кіраўніку сельскагаспадарчага аддзела Прэзідыума ПРН у Гайнаўцы, інжынеру **Мікалаю Пятроўскаму.**

На тое, што Гайнаўшчыну лічаць апошняй у сям'і паветаў Беластоцкага ваяводства, склалася шмат істотных прычын. Перш за ўсё наглядаецца адмоўны ўплыў традыцыйнай апрацоўкі зямлі, бескрытычнае пераймание спосабаў гаспадарання ад бацькі. Інакш тут і не магло быць. З уступнага аналізу вынікае, што бадай 90 працэнтаў гаспадароў у Гайнаўскім павеце не мае нават поўнай пачатковай адукацыі, многія сярод іх ледзь умеюць чытаць і пісаць. Пры такіх умовах цяжка спадзявацца высокага зацікаўлення прафесіянальнай літаратурай. Не больш 20-ці працэнтаў сялян чытае пастаянна сельскагаспадарчыя газеты і кніжкі. Адкуль жа яны маюць тады ведаць пра новыя, больш рэнтабельныя, сучасныя спосабы гаспадарання? 17-ці аграномам, якія працуюць у нашым павеце, не пад сілу вясці за ручку, бы дзіця, кожнага гаспадара.

Да вайны вёскі Гайнаўскага павета былі драўляныя. Праз Гайнаўшчыну тройчы пракаціўся знішчальны фронт, у час акупацыі гітлераўцы разбурылі ўсе пушчанскія вёскі. Няма на Беласточчыне, бадай што, іншага кутка, які б столькі выцярпеў у вайну, што Гайнаўшчына. Колькі ж сіл і сродкаў неабходна было затраціць тутэйшым сялянам, каб залячыць гэтыя глыбокія раны!

І што сталася? Гайнаўшчына адбудавалася ізноў драўлянай. Цяпер трэба яе перабудоўваць. Лічым, што на працягу некалькіх апошніх гадоў прынамсі палавіна нашых гаспадароў або штосьці ўжо сабе будавала, або яшчэ будуе; будуе з цэглы, з бетону, за свае і дзяржаўныя грошы. Значыць, займаюць яны пазыкі. Дык цяжка ім выкраіць крыху грошай на што іншае. Таму, мусіць, шмат сялян звяртаецца да нас з заяўкамі, каб адмяніць ім, напрыклад, абавязак пакупкі штучных угнаенняў.

Цешымся, зразумела, што гаспадары на Гайнаўшчыне абсталёўваюць сабе трывалую базу для сучаснай гаспадаркі. Каб яшчэ зусім ліквідаваць цераспалосіцу! Зроблена тут ужо многа і спадзяемся, што да 1973 года ніхто ў нас не будзе ўжо гаспадарыць на палосках. Затарахцяць там трактары, пойдуць снопавязалкі, сеўнікі, апырсквальнікі.

Гавораць: Гайнаўшчына апошняя! Нельга ўсіх раёнаў Гайнаўскага павета зводзіць да аднаго ўзроўню. Па гаспадарчым развіцці наваколле Новага Беразова, Чыжоў, Старога Корніна, часткова наваколле Клейнік, Кляшчэль і Ласінкі можна смела раўняць да перадавых раёнаў Беласточчыны. Вось у мінулым годзе сярэдні ўраджай для ўсяго павета — 17,3 цэнтнера з аднаго гектара, а ў гэтых раёнах — 20—25 цэнтнераў. Там і больш прымяняюць штучных угнаенняў, і, як правіла, штогод закладаюць там сіласы, і пільна падбіраюць насенне, там таксама найбольш кантрактуюць розных сельскагаспадарчых культур.

У другіх, бяднейшых раёнах шмат сялян зусім не лічыць сваёй гаспадаркі асновай свайго быту. Гаспадары з наваколля Семяноўкі, Арэшкава, Палічнай і Чаромхі працуюць на чыгунцы або ў лесе. Гаспадары з наваколля Ляўкова разлічваюць на Ляўкоўскі керамічны камбінат. Зацікаўленне зямлёй тут абмежаванае, бо гэтая зямля не забяспечвае іх сем'яў усім неабходным да жыцця. Поле пераважна апрацоўваюць жанчыны, ды ў тых раёнах найбольш цераспалосіцы і найменш сельскагаспадарчай тэхнікі. Каб хто хацеў там купіць сабе гаспадарку, дык гектар зямлі ў тых раёнах цэняць па 4—5 тысяч злотых, калі дзяржаўная цана — 10 тысяч злотых, а ў некаторых кутках Бельскага і Сямяціцкага паветаў плацяць за адзін гектар па 15—25 тысяч. У 1968 годзе аж 113 гаспадароў звярталася да нас з заяўкамі, каб узяць ад іх гаспадаркі ў замен за пенсію. З Белавежы прыязджаюць сяляне і просяць, каб перанялі мы ад іх зямлю нават без пенсіі, проста без нічога, каб толькі пазбыцца клопату з падаткамі, штучнымі ўгнаеннямі, кантрактацыяй і таму падобнымі справамі. Каб мы маглі ўсе гэтыя просьбы афармляць так, як хочуць сяляне, дык яны закінулі б нас сваімі заяўкамі. Мы і тут вымушаны праводзіць планавую палітыку. Будзем, а як жа, пераймаць зямлю ад гаспадароў, але перш за ўсё за даўгі. **Хочам, каб селянін урэшце вырашыў, ці выгадней яму быць рабочым, ці гаспадаром.** Калі рабочым, хай адмовіцца ад зямлі. Іншага выхаду мы не бачым.

Выдаецца нам, што ў некаторых раёнах завышана ў нас класіфікацыя глебы. Будзем старацца, каб правесці яе паўторна. Меліярацыя даліны ракі Нараў палепшыць кармавыя запасы, кутарызацыя ўвядзе на поле цяжкую тэхніку, масавае, двухгадовае абучэнне сялян дапаможа ім засвоіць новыя метады апрацоўкі зямлі. Усё гэтае разам дазволіць нам узняць сельскую гаспадарку Гайнаўскага павета на вышэйшы ўзровень.



Па дарозе ў Луку. Фота Цаф — Сянько




У мінулым годзе мы ўрачыста адсвяткавалі знамянальны юбілей народнай улады ў нашай краіне.

Якія былі яе пачаткі, як яна нарадзілася на Беласточчыне?

На гэтыя пытанні дае, або прынамсі стараецца даць адказ доктар Генрык Маецкі, кніжка якога «Пачаткі народнай улады на Беласточчыне»,[1]) паявілася нядаўна ў кніжных магазінах. Яе аўтар з'яўляецца, бадай што, найлепшым у нас знаўцам гэтай вельмі складанай справы.

Сваю кніжку абаснаваў ён на незвычайна багатым архіўным матэрыяле. З мурашынай пільнасцю вывучаў усе існуючыя дакументы надрукаваныя і рукапісныя працы, сягнуў да ўспамінаў людзей, якія непасрэдна стваралі гісторыю мінулых 25 год Беласточчыны, якія будавалі асновы для гэтай гісторыі.

Аб пачатках народнай улады на Беласточчыне, аб барацьбе з бандыцкім падполлем напісана ў нас ужо нямала. Каб сабраць усе кніжкі і артыкулы ў розных часопісах (не выключаючы і «Нівы»), склалася б даволі багатая бібліятэка. Аднак кніжцы доктара Генрыка Маецкага трэба ў гэтай бібліятэцы адвесці ганаровае, а можа нават і першае месца. Па свайму творчаму прынцыпу з'яўляецца яна выключна навукова-даследчай працай. Складаецца з трох асноўных раздзелаў: 1 — «Узнікненне народнай улады», II — «Ажыццяўленне зямельнай рэформы», III — «Барацьба за ўмацаванне народнай улады».

Усе свае вывады аўтар заўсёды падмацоўвае дакументамі, ён ніколі не забывае, што абавязвае яго аб'ектывізм навуковага даследчыка, што мэта гісторыка — устанаўленне гістарычнай праўды.

Для нас, для беларускага насельніцтва ў Беластоцкім ваяводстве, доследы доктара Г. Маецкага маюць асабліва вялікую вартасць. Яго кніжка, між іншым, выразна вызначае месца беларусаў з Беласточчыны ў крывавых змаганнях за перамогу народнай улады. Прачытаўшы яе, даходзіш да адзінага агульнага вываду: амаль усё беларускае насельніцтва непахіснай сцяной стала на баку палітычнай барыкады, дзе стаяла Польская рабочая партыя, дзе змаганнем кіраваў Польскі Камітэт Нацыянальнага вызвалення.

Давайце прыгледзімся гэтай справе больш дакладна. Прасочым адносіны беларусаў да асноўных спраў, якія разглядае аўтар.

### 1. УЗНІКНЕННЕ НАРОДНАЙ УЛАДЫ

Вызваленне ўсходняй і паўднёвай Беласточчыны наступіла ў ліпені 1944 года. Свабоду адначасова атрымала ўся тэрыторыя, дзе жылі беларусы. Як яны аднесліся да новых улад?

«У Бельскім павеце, — піша Г. Маецкі (стар. 26), — ужо 18 жніўня 1944 года ўзнікла Мейская рада нарадовая, 20 жніўня гэтага ж года ва ўсіх дваццаці гмінах павета былі створаны гмінныя рады нарадовыя, а 29 жніўня — ПРН».

Трэба ведаць, што ў межах Бельскага павета знаходзілася тады таксама тэрыторыя цяперашніх Сямяціцкага і Гайнаўскага паветаў.

Устанаўленнем органаў народнай улады кіравалі перш за ўсё актывісты Польскай рабочай партыі. У час акупацыі яна не мела сваіх ячэек на Беласточчыне. Ствараліся яны зараз пасля вызвалення. І тут таксама па ліку членаў і па дынаміцы развіцця партыйных радоў першынство прыпадае Бельскаму павету (глядзі: табліца на стар. 36). «У паветах: Беласток, Бельск-Падляшскі і Сувалкі, — піша Г. Маецкі (стар. 38), — першыя партыйныя ячэйкі складаліся амаль выключна з людзей, якія да вайны былі звязаны з камуністычным рухам або ў час акупацыі прымалі ўдзел у савецкім руху супраціўлення...»

### 2. АЖЫЦЦЯЎЛЕННЕ ЗЯМЕЛЬНАЙ РЭФОРМЫ

Першым найважнейшым палітычным і гаспадарчым мерапрыемствам, якое правяла новая ўлада, была зямельная рэформа. Рэакцыйнае падполле адразу варожа аднеслася да гэтага мерапрыемства. — Падзел абшарніцкай зямлі, — прапаведвалі яны, — гэта ўступ да ўсеагульнай і прымусовай калектывізацыі. Прапаганду суправаджаў збройны тэрор. Аднак «...сяляне беларускай нацыянальнасці, — адзначае Г. Маецкі (стар. 53), — пражываючыя ва ўсходніх частках паветаў: Беласток, Бельск-Падляшскі і Саколка, ад самага пачатку сталі на баку народнай улады. Адразу прынялі яны актыўны ўдзел у падзеле абшарніцкай зямлі, праяўляючы пры гэтым шмат уласнай ініцыятывы. (...) Арганізацыі рэакцыйнага падполля не змаглі запэўніць сабе ўплываў сярод беларускага насельніцтва і не мелі яны тут таксама сваіх арганізацыйных звенняў...»

Польская рабочая партыя старалася хутка пашырыць свае рады. На яе ж актывістаў ускладаўся асноўны цяжар прапагандысцкай і арганізацыйнай работы па ажыццяўленню зямельнай рэформы. Не менш важнай справай была пастаўка харчавых прадуктаў для войска і галадаючых гарадоў.

«Да канца 1944 года, — сцвярджае Г. Маецкі (стар. 53), — толькі два паветы — Беластоцкі і Бельскі — поўнасцю выканалі наложаныя на іх пастаўкі».

Калі разам з фронтам адышла з Беласточчыны Савецкая Армія, лясныя банды яшчэ смялей прыўзнялі свае крывавыя рогі. Тады «...не наглядалася значнейшага ўзросту ліку членаў партыі ў вёсках...,» — адзначае аўтар кніжкі (стар. 76) і дадае: — «...за выключэннем раёнаў, населеных беларусамі...».



 

 

# З VIII МІЖШКОЛЬНАГА КОНКУРСУ



Удзельнікі фіналу VIII міжшкольнага конкурсу са сваімі апекунамі — настаўнікамі.

Закончыўся чарговы міжшкольны конкурс. Яго фінал адбыўся ў памяшканні пачатковай школы № 3 у Бельску Падляшскім 11 студзеня 1970 г. Як вядома, арганізатарамі конкурсу з'яўляецца Куратория школьнай акругі ў Беластоку і Галоўнае праўленне БГКТ.

У фінале конкурсу прыняло ўдзел 12 вучняў пачатковых школ, якія прадстаўлялі сабой усе паветы, дзе вучні навучаюцца беларускай мове. Напамінаем, што каб дайсці да фіналу, удзельнікі мусілі быць першымі ў арганізаваных конкурсах у асяроддзі, а потым у павятовых эліміацыях. Такім чынам, удзельнікі фінальных эліміацый не толькі прадстаўлялі сабой школы, у якіх вучацца, але і свае паветы.

У склад конкурснай камісіі ўваходзілі: **П. Севасцьяновіч** — кіраўнік аддзела пачатковых школ КОС, **В. Сакоўскі** — кіраўнік секцыі беларускага школьніцтва Акругавага метадычнага цэнтра ў Беластоку, **Ю. Альшэўскі** — намеснік школьнага інспектара ў Бельску, **С. Трафімюк** — падінспектар, **О. Гарастовіч** — кіраўнік павятовага метадычнага цэнтра бел. мовы ў Гайнаўцы і **М. Гайдук** — дырэктар бел. ліцэя ў Бельску.

Камісія першае месца прызнала **Я. Семянюку** са школы ў Малінніках (Бельскі павет), другое — **В. Любчэнка** — школа № 3 у Бельску, два трэція месцы — **К. Кузьме** з Астраўка (Сакольскі павет) і **К. Крэйза** з Мілейчыц (Сямяціцкі павет). Удзельнікам конкурсу былі ўручаны ўзнагароды, якія закупіла Куратория і Галоўнае праўленне БГКТ.



Конкурсная камісія (справа налева): В. Сакоўскі, М. Гайдук, О. Гарастовіч, П. Севасцьяновіч, Ю. Альшэўскі і С. Трафімюк.

Столькі інфармацыі. Аднак пры тэме міжшкольных конкурсаў, не можна адмовіць сабе прыемнасці і не сказаць некалькі слоў аб яго арганізацыі.

Добра, што прынамсі ў апошнія гады змянілася форма конкурсаў — з дэкламатарскага конкурсу перайшлі на конкурс ведаў аб справах беларускіх. Сёлета конкурс быў арганізаваны з мэтай пашырэння ведаў беларускіх дзяцей аб гісторыі і літаратуры беларусаў, аб іх роднай зямлі.

Недапрацаванай засталася справа правілаў конкурсу. Настаўнікі, а нават інструктары беларускай мовы наракалі на неканкрэтнасць паасобных параграфаў, на іх вялікую агульнасць. Пераглядаючы змест правілаў конкурсу, кожны з настаўнікаў мог па-свойму яго разумець і прымяняць у працы з моладдзю.

У будучыні пры арганізацыі такіх конкурсаў, па-мойму, трэба ўключаць да апрацоўкі яго правілаў шырэйшы круг спецыялістаў паасобных галін навук і настаўнікаў. Для такіх конкурсаў трэба абавязкова падаць вучням літаратуру, якой яны павінны карыстацца пры падрыхтоўцы да конкурсу. Нельга дапускаць, каб настаўнікі толькі інтуіцыйна, па-свойму выраашалі, па якіх матэрыялах рыхтаваць дзяцей да конкурсу.

На будучыню хацелася б запрапанаваць арганізатарам конкурсу крыху вузейшую тэматыку. Прызнаюся, што сёлетнія пытанні, якія атрымалі фіналісты, датычылі вельмі розных спраў, пачынаючы ад літаратуры Кіеўскай Русі і яе гісторыі, па сучасныя творы і гісторыю. Вельмі мала пытанняў датычыла польска-беларускіх сувязяў, удзелу польскіх беларусаў у вызваленні Польшчы і ў змаганні за народную Польшчу, не было пытанняў, якія б датычылі дзейнасці БГКТ і іншых нацыянальных таварыстваў ў Польшчы, замала пытанняў аб нашым літаратурным руху, мала пытанняў пра нас, пражываючых тут, у Польшчы. Лічу, што гэтыя справы павінны быць асноваю будучых міжшкольных конкурсаў.

Трэба было б перадумаць таксама самую тэхніку конкурсаў. Можа б «памалпаваць» крыху тэлевізійныя турніры, каб быў вядучы, які чытае пытанні, а камісія б толькі ацэньвала? Урэшце не фармуліраваць вельмі агульных пытанняў, а калі ўжо так, дык, можа, перадумаць дадатковыя пункты за паправўнасць выказванняў на беларускай мове?

Свае заўвагі лічу як прапановы да наступных конкурсаў, а не як ацэнку гэтага. VIII міжшкольны конкурс, нягледзячы на недахопы, лічу ўсё ж найлепшым з датыхчасовых.

**А. Карпюк**

Фота ЦАФ — Сянько



Адказвае Галіна Бжэзінская з Зуброў, Беластоцкага павета.

ПРОСЬБА ДА КРЫНКАЎСКІХ ЛЮДЗЕЙ

# ДОМ ПАМЯЦІ ў Крынках

Па ініцыятыве «Нівы» адбыліся святкаванні 400-годдзя Крынак у 1969 годзе. У гэтым годзе наша рэдакцыя дала пачатак новай ініцыятыве: 90-годдзе гарбарняў у Крынках.

Крынкаўскімі гадавінамі, святамі зацікавілі мы партыйныя і адміністрацыйныя органы, дзеячаў прамысловасці, а таксама Музей рэвалюцыйнага руху ў Беластоку. У выніку супольнай развагі было пастаноўлена арганізаваць у Крынках пачаткі музея — Дом Памяці. Трэба, каб у гэтым Доме Памяці знайшліся дакументы старажытнай гісторыі Крынак, а таксама матэрыялы аб слаўным калісьці крынкаўскім рэвалюцыйным руху перад усім! Дом Памяці — назва не выпадковая. Хочацца гэтым падкрэсліць значэнне гістарычнага мінулага ў працэсе выхавання цяперашніх людзей. Значэнне вялікае, вельмі вялікае. Нельга яго пераацаніць!

У сувязі з арганізацыяй Дома Памяці ў Крынках звяртаемся з просьбай да ўсіх людзей Крынак і Крыншчыны, каб прысылалі ў рэдакцыю «Нівы» даўнія фатаграфіі, дакументы, лістоўкі, палітычныя пісьмы, газеты з артыкуламі аб Крынках, кніжкі. Усё гэта прычыніцца да больш шырокага асвятлення **перадваеннай** гісторыі Крынак, рабочага руху тут, значных фактаў. Цікавыя матэрыялы, прысланыя нам, будуць змешчаны ў гэтым Доме Памяці на выстаўках.

Заахвочваем таксама да напісання ўспамінаў аб сваіх перажываннях, звязаных з даваеннымі гістарычнымі фактамі.

Наш адрас:
Redakcja Tygodnika „NIWA” w Białymstoku, ul. Wesołowskiego 1.

**(С. Я.)**

Дакументы, якія захаваліся ў партыйных архівах, дазваляюць Г. Маецкаму (стар. 110) сцвердзіць: «Ва ўсходніх раёнах паветаў Беласток і Бельск Падляшскі, дзе пражывала беларускае насельніцтва, арганізацыйнае развіццё партыі праходзіла інтэнсіўна — як у гарадах, так і на вёсках».

Пад канец 1945 года ў Бельскім павеце налічвалася 756 членаў Польскай рабочай партыі. Гэта давала яму першае месца ў ваяводстве (глядзі табліцу на стар. 109).

### 3. БАРАЦЬБА ЗА ЎМАЦАВАННЕ НАРОДНАЙ УЛАДЫ

Восенню 1945 года ў палітычную барацьбу ўключылася толькі што заснаваная партыя — Польскае людовае страніцтва, якое ўзначальваў Мікалайчык. Гэтае страніцтва аб'ядноўвала ўсе адсталыя, рэакцыйныя элементы. Знаходзіла яно таксама падтрымку з боку баявых падпольных груповак, якія ў перыяд падрыхтоўкі да рэферэндума і выбараў асабліва актывізавалі сваю бандыцкую дзейнасць.

Дайшло да таго, што 8-га студзеня 1946 года Ваяводская палітычная камісія па барацьбе з бандытызмам прыняла пастанову, у якой патрабавала ад цэнтральных улад, каб на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства аб'явіць надзвычайнае ваеннае становішча.

Як пры такіх абставінах вялі сябе беларусы?

Найлепшым адказам на гэтае пытанне былі вынікі дзвюх найважнейшых палітычных падзей таго часу: усеагульнага народнага галасавання (рэферэндума), якое адбылося 30 чэрвеня 1946 года, і выбараў у першы Сейм, якія праводзіліся 19 студзеня 1947 года.

Г. Маецкі адзначае: «Не было вялікіх цяжкасцей пры ўстанаўленні складу раённых камісій для правядзення народнага галасавання ў гарадах і на тэрыторыі, дзе пражывалі беларусы...

Тут... амаль у 100% быў дадзены адказ «3 разы так» (стар. 131—132).

А як галасавалі беларусы ў час выбараў?

І зноў доктар Г. Маецкі на аснове дакументаў сцвярджае: «У раёнах, населеных беларусамі, амаль 100% выбаршчыкаў аддало свае галасы на спісак кандыдатаў блока дэмакратычных страніцтваў...» (стар. 151).

Народная ўлада перамагла. Польская рабочая партыя замацавала свае ўплывы сярод грамадскасці Беластоцкага ваяводства. У пачатку 1947 года ў яе радах знаходзілася амаль 650 членаў. І тут зноў знаходзім характэрнае сцвярджэнне даследчыка: «Узрост ліку сялян у радах ваяводскай арганізацыі ППР — піша Г. Маецкі (стар. 153), — наступаў, галоўным чынам, таму, што пашырыліся яе рады ў раёнах, заселеных беларусамі, і на тэрыторыі трох паветаў Вернутых земель...»

Новая кніжка Г. Маецкага паказвае і даказвае, што беларусы з Беласточчыны сардэчна віталі народную ўладу, ахвярна яе адстойвалі, былі ў першых радах яе змагароў.

**Віктар Рудчык**

1) Henryk Majecki, Początki władzy Ludowej na Białostocczyźnie, 1944—1947, s. 176, Lublin 1969, nakład 1000 eg., cena 35 zł.

# ПОЛЫМЯ

Прыкметай студзеньскага нумара — апавяданні. Выступаюць з імі М. Вышынскі, А. Жук, А. Пальчэўскі, М. Капыловіч, Я. Герцовіч, Л. Арабей, А. Рыбак і французскія пісьменнікі: Б. Тасліцкі, П. Гамара, А. Сціль і М. Мано. Паэзію прадстаўляюць толькі П. Панчанка і М. Рудкоўскі. З мастацкай літаратуры друкуецца яшчэ камедыя ў трох дзеях «Адкуль грэх?» А. Петрашкевіча.

У нарысе з падарожжа па краінах Балтыйскага і Паўночнага мораў «Ля сямі прычалаў» Ю. Пучынскага ёсць і польская частка. З польскай тэмай звязаны таксама цікавы артыкул Я. Саламевіча «Песенная кайстра Міхала Федароўскага», у якім беларускі даследчык піша аб беларускіх народных песнях, сабраных заслужаным для беларускай культуры палякам. За час свайго амаль 30-гадовага жыцця на Беларусі Федароўскі сабраў больш за 5000 песенных тэкстаў. «Беларускія народныя песні, сабраныя М. Федароўскім, — піша Я. Саламевіч, — неацэнны скарб, які надзвычайна ўзбагаціў беларускую нацыянальную культуру. Па яго зборах мы цяпер маем выключную магчымасць пераканацца яшчэ раз у глыбокай паэтычнасці нашай народнай песні, пазнаць душу народа, зразумець яго псіхалогію і этыку, глыбей пранікнуць у беларускі нацыянальны характар... Беларускія народныя песні і мелодыі, запісаныя Міхалам Федароўскім, узбагацілі не толькі нашу нацыянальную духоўную спадчыну. Яны з'яўляюцца вялікім укладам і ў агульнаславянскую, і, урэшце, у агульначалавечую культуру».

З вельмі важнай праблемай выступае В. Красоўскі ў артыкуле «Колькі заўваг пра мову». На шматлікіх прыкладах пераканаўча даказвае ён, што неабходна ўпарадкаваць слоўны склад беларускай мовы.

Шмат цікавых звестак прыносіць таксама артыкул Івана Мікуловіча — першага сакратара Гродзенскага абкома КП Беларусі — «Кім мы сёння сталі», у якім паказаны мінулае і сённяшні дзень Гродзеншчыны.

Урэшце ўласны панадворак: пад загалоўкам «Загоны пачынаюць рунець...» часопіс друкуе рэцэнзію на нядаўна выдадзены ГП БГКТ зборнік Сакрата Яновіча. Аўтар рэцэнзіі М. Прашковіч звяртае ўвагу на станоўчыя і адмоўныя бакі «Загонаў». Да першых залічвае мініяцюры, («разнастайныя тэматыкай, колам пытанняў»), асабліва вылучаючы такія з іх, як «Загоны», «Валошка», «Касец» і «Бярозка ля акна» («Аўтар не ўзнімае ў іх вялікіх грамадскіх праблем, але ў гэтых творах многа цеплыні, шчырай чалавечай спагады»). Рэцэнзент хваліць таксама сатырычныя мініяцюры Яновіча, для прыкладу называючы «Дзядзькоў», «Прыехаў», «Візітацыю начальніка», «Шпацыр на новай перыферыі».

«Аўтар удумліва перадае жыццёвыя сітуацыі, — піша ён. — За маленькімі фактамі відны тыповыя прыкметы жыцця беластоцкай вёскі з усімі яе праблемамі, супярэчнасцямі.

Але, на жаль, ёсць у зборніку і такія мініяцюры, якія наўрад ці трэба было ўключаць. Гэта нязначныя сваім зместам звычайныя замалёўкі».

З двух цыклаў невялічкіх апавяданняў: «Лісты з вёскі» і «Дзядзькавы соннік». удачай аўтара лічыць М. Прашковіч першы, а з навелаў — «Экскурсія», «Таня», «Ён і іншыя», «Скарбы Яцвяжскай пушчы» — тры першыя. Апошнюю крытыкуе за непраўдападобнасць.

У заключэнні рэцэнзіі аўтар піша: «Зборнік С. Яновіча атрымаўся не зусім роўны. Побач з цікавымі мастацкімі мініяцюрамі, цыклам апавяданняў «Лісты з вёскі» і трыма навеламі, якія складаюць удачу аўтара і ад якіх ён павінен ісці ў сваёй далейшай творчасці, у зборнік трапілі і многія слабыя мініяцюры, у цэлым няўдалы цыкл «Дзядзькавы соннік» і навела «Скарбы Яцвяжскай пушчы». Пры ўсім гэтым агульная наша ацэнка зборніка станоўчая. З яго відаць, што пісьменнікі Беласточчыны не баяцца брацца за складаныя тэмы, умеюць паспяхова іх выраашаць, — і ў гэтым гарантыя іх будучых поспехаў.

**Ювэ**

### ЦІ Ў БАГНЮКАХ УСЁ ІДЗЕ Ў ЛАД?

Багнюкоўскі сельскагаспадарчы гурток адзін з наймацнейшых у ваколіцы Грамадскай рады Юшкавага Груда. Шмат тэхнікі, варштат, электрасіла.

Тым часам «Ніва» атрымоўвае пісьмо, напісанае ад імя трактарыстаў таго ж гуртка, з якога вынікае, што ў Багнюках не ўсё добра. Напрыклад, трактарысты просяць, хіба «Ніву», каб даць ім рабочае адзенне і іншыя належныя ім сродкі да працы. Наракаюць на дыспазітара, які з'яўляецца адначасова і старшынёй гуртка, але які ўдаўся чалавекам энергічным і не дазваляе трактарыстам рабіць, так званыя, хаўтуркі. Ці не ў тым прычына таго пісьма і злосці яго аўтара?

(ся)



 

## БЕЛАРУСКАЯ МОДА



Касцюмы для зімовага адпачынку.
Фота В. Казлова

## БЯЛКОВЫЯ РЭЧЫВЫ З НАФТЫ?

Насельніцтва зямнога шара штогод спажывае да 40 мільёнаў тон бялковых рэчываў. Паводле папярэдняй ацэнкі, патрэбнасць у бялках да канца XX стагоддзя ўзрасце да 60 мільёнаў тон. Таму ўжо цяпер вучоныя пачынаюць задумвацца над тым, якім чынам можна будзе павысіць выпуск прадуктаў, якія ўтрымліваюць бялок, і шукаюць новыя метады атрымання бялковых прадуктаў.




Прафесар Брусельскага універсітэта Э. Дж. Бігуд настойвае на неабходнасці адшукання новых рэсурсаў харчавання, паколькі ён лічыць, што традыцыйная жывёлагадоўля і рыбалоўства не змогуць забяспечыць падвоенай або патроенай вытворчасці бялкоў к 2000 году.

Прапаноўваліся праекты па вырошчванню марскога планктону, багатага бялкамі. Аднак на гэта спатрэбілася б вельмі многа расходаў. На думку Бігуда, больш мэтазгодна выкарыстоўваць некаторыя мікраарганізмы, якія вырастаюць на пабочных прадуктах перагонкі нафты і валодаюць надзвычай высокімі пажыўнымі якасцямі. Вытворчасць бялкоў на гэтай аснове ў 2.500 разоў хутчэйшая за працэс атрымання пратэінаў у выглядзе мяса.

(сс)

## 67=2 МІЛЬЁНЫ

Чалавек з'явіўся на Зямлі 2 мільёны гадоў назад. Але да нашай эры людзей было мала. Нават параўнальна нядаўна, у 1000 годзе нашай эры, насельніцтва зямнога шара складала ўсяго 275 мільёнаў чалавек. І ў наступныя 400 гадоў яно расло вельмі марудна (у 23 разы павольней, чым цяпер). Толькі ў наступныя 400 гадоў насельніцтва планеты прыкметна паскорыла рост і да 1800 года склала 906 мільёнаў. Праз 100 гадоў яно ўжо дасягнула 1.608 мільёнаў, да 1950 года — 2509 мільёнаў, а да 1966 года — 3407 мільёнаў. Такім чынам, за апошнія 67 гадоў людзей на Зямлі стала больш, чым за ўсю папярэднюю двухмільённую гісторыю чалавецтва.

Свой трохмільярдны рубеж насельніцтва пераадолела яшчэ ў 1960 годзе і працягвае штогод павялічвацца на 65 мільёнаў. Між іншым, людзям нашай планеты не пагражае голад, бо пры раўнамерным размеркаванні сучаснага харчавання можна пракарміць 8 мільярдаў чалавек.

## Літаратурныя гульні

### ЛАБІРЫНТ

Увайдзіце ў гэты лабірынт і выйдзіце з яго. З літар, якія сустрэнуцца на шляху, складзіце словы з верша П. Глебкі. Напішыце, як называецца гэты верш.

У тым выпадку, калі пойдзеце па няправільным шляху, вас чакае папярэджанне.

Адказы просім прысылаць на наш адрас: **Redakcja tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Wesołowskiego 1.** да 19 лютага 1970 года.

Сярод тых, хто прышле правільныя адказы, разлясуем кніжныя ўзнагароды.



Адказ з 4 нумара «Нівы» ад 25.I.1970 г.: 1) Э. Самуйлёнак. «Паляўнічае шчасце», 2) Я. Колас. «Ручэй», 3) Э. Самуйлёнак. «Паляўнічае шчасце», 4) М. Лынькоў. «Астап».

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### Электрычныя каты

Адна японская фірма выпусціла на рынак электрычных катоў, якія аказаліся вельмі добрым страшыдлам на мышэй. Штучны кот, падключаны да электралініі, мяўкае нястомна — 10 разоў у мінуту — а мышы за нішто ў свеце не адважваюцца вылезці са сваіх схоўкаў.



## КУЛІНАРЫЯ

### Ялавічына па-львоўску

Ялавічыну нарэжце парцыённымі кавалкамі, адбіце секачом, пасаліце, пасыпце перцам, пакладзіце на добра нагрэтую патэльню з тлушчам і абсмажце да палавіны гатоўнасці. Абсмажанае мяса пакладзіце ў каструлю, на яго — слой яблыкаў, нарэзаных кружочкамі, і ў закрытай пасудзіне тушыце каля 30 мінут. Уліце сухое сталовае віно і давядзіце да кіпення.

Да ялавічыны падайце смажаную бульбу, зялёны гарошак. Пры падачы пасыпце зелянінай.

На 500—600 г ялавічыны 1—2 ст. лыжкі тлушчу, 6—8 свежых яблыкаў, 1/2 шклянкі сухога сталовага віна,

## Наш Каляндар

### КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў ЯЛЦЕ

25 год таму назад з 4 па 11 лютага 1945 г. адбывалася Ялцінская канферэнцыя. У ёй прынялі ўдзел Старшыня Народных Камісараў СССР І. Сталін, прэзідэнт ЗША Ф. Рузвельт, прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі У. Чэрчыль, міністры замежных спраў СССР, ЗША і Вялікабрытаніі, прадстаўнікі генеральных штабаў, а таксама палітычныя і ваенныя саветнікі. Урады СССР, ЗША і Вялікабрытаніі яшчэ да сустрэчы ў Крыме дамовіліся, што на канферэнцыі будуць абмеркаваны ваенныя і палітычныя пытанні, якія пажадае паставіць кожны з урадаў. Круг пытанняў аказаўся шырокі. Канферэнцыя разгледзела ваенна-палітычныя абставіны ў Еўропе і Азіі, узгодніла планы канчатковага разгрому германскага і японскага агрэсараў і вызначыла асноўныя прынцыпы ўладкавання свету і міжнароднай бяспекі.

На здымку: У зале пасяджэнняў.



## Ці ведаеце, што...

...у адзін год народнага паэта Беларусі Янку Купалу напаткала вялікае гора: памёр бацька, а восенню дзве сястры і малодшы брат.

...Максім Багдановіч у старэйшых класах Ніжненаўгародскай гімназіі вывучаў лацінскую, грэчаскую, італьянскую, французскую, нямецкую мовы, беларускую літаратуру і вусную народную творчасць.

...Змітрок Бядуля ўмеў чытаць у пяцігадовым узросце.

...пасля заканчэння народнага вучылішча ў Бяларучах Янка Купала пачаў сваё працоўнае жыццё: працаваў вандроўным настаўнікам, перапісчыкам у судовага следчага ў Радашковічах, рабочым на бровары.

...беларускі празаік Аркадзь Чарнышэвіч з 1934 па 1950 год настаўнічаў у вясковых школах Пермскай вобласці. (а-к)

## Чэрць стагоддзя назад




### НАМ ПЯКУЦЬ ХЛЕБ

Каля лесу, крыху ўлева, мы ўбачылі агеньчыкі ў вокнах. Значыць — блізка хутар.

— Зойдзем? — пытаюся ў Генкі.

— Давай, — з гатоўнасцю адказаў ён.

Хутар быў не так блізка, як здавалася. Пакуль ішлі, святло ў вокнах пагасла.

Падышлі да дзвярэй. Пачуўшы чужых, званочкам заліўся галасісты пакаёвы сабачка. Шчоўкнула засаўка, і рыпнулі дзверы.

— Хто тут? — спытала жанчына, адчыніўшы дзверы, але яшчэ не ўгледзеўшы нас, бо мы стаялі, прыціснуўшыся да сцяны.

— Салдаты, — напаўголаса адказваю, адхіліўшыся ад сцяны. — Нам патрэбен хлеб і яшчэ што-небудзь з харчоў...

— То заходзьце ў хату. — Яна прапусціла нас уперад, зачыніла дзверы за намі. А калі адчыніла дзверы ў хату, там ужо гарэла святло. З цёмных сянец мы ўгледзелі другую немаладую жанчыну. Яна стаяла каля ложка, з якога відаць, падхапілася, накінуўшы на сябе халат.

— Мама, хто прыйшоў? — спытала яна, і ў голасе яе адчувалася трывога.

Яна надта спалохалася, калі мы пераступілі парог. Перад ёю былі незнаёмыя людзі ў шэрых рускіх шынялях, шапках-вушанках, з таўстастволымі аўтаматамі. Твар у мяне быў зарослы, пашарэлы. На адной назе бот, другая абматана анучай і перавязана зверху бінтам. Генка з тонкай, што выторквалася з шырокага каўняра, шыяй. Што і казаць — уражліваe відовішча...

— Салдаты. Хіба сама не бачыш — людзі са зброяй... — адказала маці.

— А што ім трэба?

— Хлеб, яда.

— У нас няма хлеба.

— Шкада, што няма, — сказаў я па-нямецку.

— Ды ўжо ж так не будзе — знойдзем што-небудзь, — супакоіла старая.

Праз дзверы з другога пакоя паказаўся заспаны твар дзяўчынкі гадоў пятнаццаці—шаснаццаці. Прытрымліваючы на грудзях накінуты на плечы халат, яна з цікаўнасцю разглядвала няпрошаных гасцей.

— Мама, запрасі іх сесці, — павярнуўшыся да той жанчыны, што стаяла каля ложка, сказала дзяўчынка.

— Сапраўды, што ж вы стаіце ў парозе? Праходзьце, сядайце, — замітусілася старая. — Гэта ўнучка мая, — паказала яна на дзяўчынку. — А гэта — дачка...

— Дзякуй. Вось і пазнаёміліся. А дзе ж вашы мужчыны? — пытаюся.

— У вас хворая нага? — толькі цяпер убачыла старая.

— Ды так, дробязь... — няпэўна адказваю.

— Вы пытаецеся, дзе нашы мужчыны. Іх няма. І ў вас ёсць недзе маці, сёстры, а вы тут. Значыць, і ў вашых сем'ях дома няма мужчын. Вы — рускія? — нечакана спытала яна.

— Рускія. Баіцёся?

— Не. Што нам той страх! Гора — вось наша бяда... — старая падышла да мяне зусім блізка. — Вы пытаецеся, дзе нашы мужчыны? — паўтарыла яна. — Іх забрала вайна. Мой муж загінуў на рускім фронце ў 1915 годзе. Яе муж, — яна паказала на дачку, — загінуў таксама на рускім фронце ў 1942 годзе. А дзе загіне яе муж... — ужо са слязьмі на вачах гаварыла бабуля, паказваючы на ўнучку.

Мы з Генкам селі. Старая падышла да мяне, паклала руку на плячо. Гэта было так нечакана, што я разгубіўся, не ведаў, што рабіць. Гэты жэст, слёзы... Спачатку здалося, што старая папракне нас за тое, што яе муж і муж дачкі загінулі ад рускіх куль. Але ж не, не тое хацела сказаць старая немка.

— Дзе загіне яе муж? — дрыжучы і плачучы, паўтарала яна.

— Не трэба, бабуля. Супакойцеся, — абняўшы яе рукой за плечы, пяшчотна гаварыла ўнучка. — У мяне яшчэ няма мужа. Навошта ж так?...

— Яны адбяруць яго і ў цябе, калі ён будзе. Яны адбяруць! Калі гэтаму настане канец?

Для нас з Генкам упершыню за ўсе гады вайны паўстаў твар зусім іншай Германіі, той Германіі, якой прыходзіцца расплачвацца за развязаныя фанатыкамі войны.

— Заўтра забяруць і яе, — не сціхала старая, паказваючы на ўнучку. — Працоўная павіннасць! І яна пакідае нас, мая любая Эльза!

Цяпер ужо слёзы заблішчалі на вачах і ў дачкі.

— Скора ўсяму прыйдзе канец, — сказаў я.

— Скарэй бы... Няма больш сілы цярпець! — старая выцерла слёзы.

Мы адчувалі сябе тут, як у сваіх людзей.

— Хлеба ж якраз няма... — спахапілася старая, успомніўшы, чаго мы прыйшлі. — Адварым бульбы, спячом яешню на сале...

— Мы не можам столькі чакаць — гэта небяспечна і для нас, і для вас.

— Нічога, у нас салдат няма. Хоць ва ўсіх па хатах яны раскватараваны. Вам пашанцавала, што трапілі да нас.

Жанчына пачала абіраць бульбу. Агледзеўшыся на дачку, — тая якраз папраўляла занавескі на вокнах, — сказала ёй ласкава:

— Ідзі кладзіся спаць.

— Добра, мама, — адказала тая. І ўжо да ўсіх: — Спакойнай ночы.

Нарэшце, больш як за сто дзён, першая сапраўдная вячэра ў цёплай хаце. Елі моўчкі, стараліся стрымліваць сябе, каб не выглядаць няшчаснымі, не выклікаць жалю ў гаспадынь.

— Калі застанецеся ў нас да наступнай ночы, то мы заўтра спячом вам хлеб.

Такая прапанова была настолькі нечаканай, што мы з Генкам са здзіўленнем паглядзелі на старую, не ведаючы, што і сказаць.

— На гарышчы ў хляве многа саломы. Там вы можаце і выспацца і адпа-

# ТРЫБУНА чытачоў

## У ПАЧАКАЛЬНІ

Да цягніка на прыпынак Гнілец кожную раніцу спяшаецца многа людзей. Сярод пасажыраў пераважае моладзь, якая вучыцца ў гайнаўскіх школах. Да нядаўна людзі чакалі цягніка ў халоднай пачакальні. Памяшканне гэтае называлі вытразвілаўкай. Цяпер аднак занялася гэтым прадаўшчыца білетаў. Яна штодзень паліць печку, і цяпер тут заўсёды цёпла і ўтульна. Ніхто ўжо не дрыжыць ад холаду. «Вялікае дзякуй», — кажуць людзі прадаўшчыцы білетаў.

**Люба Ярашэвіч, бел. ліцэй у Гайнаўцы**

## У ОРЛІ

Калі зойдзем у васьмікласную пачатковую школу ў Орлі, перш за ўсё кідаецца ў вочы вялікая колькасць дыпломаў, якія вісяць на сценах, розных планшаў, насценгазет, выставак. З іх можна даведацца аб працы гарцэраў, чырвонага крыжа, лігі аховы прыроды, спартыўнай каманды, а таксама аб спаборніцтве паасобных класаў за чысціню. У многіх школьных залах ёсць насценгазеткі, прысвечаныя 100-ай гадавіне з дня нараджэння У. І. Леніна. У Орлі ўсе школьныя арганізацыі даволі добра працуюць, так што ёсць чым пахваліцца школьнікам. Найбольшыя дасягненні мае школьная спартыўная каманда.

Я. Ц.

## ПАГРАЖАЕ СМЕРЦЮ

Плёскаўскую вуліцу (Бельскі павет) асвятляюць электрычныя лямпачкі. Да ўключэння вулічнага святла ёсць спецыяльны ўключальнік, які знаходзіцца ў скрынцы на адным са слупоў. У гэтай скрынцы плёскаўскія варвары абарвалі дзверцы. А ў вёсцы нікому не даверылі ўключаць святло. Уключае той, хто хоча. Заглядаюць у гэтую скрынку нават дзеці. Да гэтай пары скрынка ад уключальніка адкрыта і можа быць прычынай смерці дзяцей ад электрычнага тока.

**Л. Л., Плёскі**

## КУРС ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ

Ад 28 снежня 1969 г. да 3 студзеня 1970 г. адбываўся ў 195-ай пачатковай школе ў Варшаве курс для настаўнікаў, якія працуюць у радах клубаў на Беласточчыне.

Арганізатарамі гэтага курса былі Беластоцкае прадпрыемства «Рух» і Ваяводскае праўленне ЗМВ. Было на курсе 70 настаўнікаў, якія знаёміліся з метадамі адносна папулярызацыі музыкі, выяўленчага мастацтва і перадач па радыю і тэлебачанню. Заняткі вёў штатны працаўнік аддзела культуры ВРН Казімір Дэркоўскі.

Удзельнікі курса практычна пазнаёміліся са спосабамі і формамі працы ў клубах, навучыліся арганізоўваць вечарыны ў клубах з цікавымі праграмамі.

**Янцал**

## ПЕДАГАГІЧНАЯ БІБЛІЯТЭКА

Педагагічная бібліятэка ў Бельску Падляшскім налічвае зараз 5827 кніжак, у тым ліку 3018 на педагагічныя тэмы і 594 кніжкі мастацкай літаратуры.

Кніжкамі бібліятэкі карыстаецца 417 настаўнікаў пачатковых і сярэдніх школ.

У верасні 1969 года педагагічная бібліятэка атрымала больш прасторнае памяшканне, значыць, цяпер ёсць лепшыя ўмовы да працы.

Бібліятэка для сваіх чытачоў выпазычае таксама кнігі з іншых бібліятэк: з Варшавы, Вроцлава, Беластока і іншых гарадоў.

Бібліятэкар Яніна Татарчук арганізуе выстаўкі кніг, уключаецца ў працу настаўніцкіх канферэнцый, робіць змястоўныя інфармацыі аб новых метадах навучання ў школе і г.д. Працуе яна тут ужо 7 гадоў і таму ведае настаўнікаў і ведае зацікаўленні амаль кожнага.

**Янка Цялушэцкі**

## НАРАДА САКРАТАРОЎ

На нарадзе сакратароў вясковых партыйных арганізацый у Беластоцкім павеце (16.I.1970 г.) найбольш увагі было прысвечана кантрактацыі збожжа і закупу мінеральных угнаенняў. Аб гэтых справах гаварыў першы сакратар павятовага камітэта ПАРП Аляксандр Камінскі і многія сакратары партыйных арганізацый.

**Мікалай Краўчук, Патока**




**Дарагое Сэрцайка!**

Вучуся ў Геадэзійным тэхнікуме ў Беластоку. Хачу пасля заканчэння яго вучыцца далей, але, калі гэта магчыма, у Савецкім Саюзе. Напішы, якія ёсць вышэйшыя школы, якія б прымалі кандыдатаў пасля тэхнікумаў і якія ўмовы прыняцця.

**За параду буду вельмі ўдзячны.**
**Ваня з Беластока**

**Ваня!** Мы звярталіся ў тваёй справе ў Кураторыю, адкуль атрымалі наступны адказ: трэба пісьмова звярнуцца ў Міністэрства асветы і вышэйшага школьніцтва, дзе адпаведная камісія разгледзіць прашэнне і дасць такі ці іншы адказ.

Не магу, на жаль, адказаць дакладна на твае падрабязныя пытанні, якія датычаць школ у Савецкім Саюзе. На гэта таксама атрымаеш выясненні ў Міністэрстве. **Жадаю поспехаў у навуцы**

**Сэрцайка**

## ПОЎНАЯ ЭЛЕКТРЫФІКАЦЫЯ

Праз два гады ў Сакольскім павеце будуць электрыфікаваныя ўсе вёскі. Нягледзячы на тое, што зіма, што холадна, што шмат снегу, аднак ідзе там работа у 47 вёсках, якія знаходзяцца на тэрыторыі 13 грамадскіх рад.

У грамадзе Бабікі на 16 вёсак было электрыфікавана 4 вёскі. Зараз там у 12 вёсках закопваюцца стаўбы, абсталёўваюцца электрычныя правады ў хатах і гаспадарчых будынках.

Магло б выдавацца, што ўсе вёскі, усе сяляне імкнуцца як найхутчэй атрымаць электрычнае святло, бо без яго цяжка ўявіць сучасную вёску. Але, на жаль, многія недаацэньваюць дабрадзейства «электрыкі». Напрыклад, жыхары вёскі Мінькоўцы не згадзіліся, каб дзяржава правяла святло ў іх будынкі. Уявіце сабе, што павятовым уладам трэба было ехаць пераконваць сялян, даказваць, што электрычнасць на вёсцы — гэта прагрэс, гэта і святло, і радыёперадачы, і тэлеперадачы, і сіла да рухавікоў, і ўрэшце згадзіліся Мінькоўцы, і ў іх таксама хутка загарацца лямпачкі. сс)

## ЁЛКА Ў ЛІЦЭІ

17 студзеня 1970 г. у Бельскім беларускім ліцэі адбылася навагодняя ёлка. Ужо некалькі дзён перад гэтым вучні рыхтаваліся да такога ўрачыстага вечара. Здаўна ў гэтай школе захавалася форма конкурснага дэкаравання класаў. І таму вучні ўсімі сіламі стараліся, каб іх клас быў прыгажэйшы ад іншых.

17 студзеня, а гадзіне трэцяй пасля абеда вучні сабраліся ва ўрачыста ўдэкараваных класах, дзе была цудоўна прыбрана ёлка, а пад ёй ляжалі навагоднія падарункі. Але не толькі класы былі прыгожа аздобленыя. Святочна была ўбрана таксама фізкультурная зала, дзе адбылася агульная забава.

А сёмай гадзіне вечара, пасля забавы, вучні са сваімі выхавацелямі і іншымі гасцямі сабраліся ў сваіх класах. І тут пачалася асабліва цікавая частка. Усе чакалі Дзеда Мароза, які завітаў да кожнага класа. А потым усе супольна з'елі смачную вячэру, якую падрыхтаваў бацькоўскі камітэт. Затым адбылася ўрачыстая частка. Вучні спявалі розныя песні і дэкламавалі вершы. У час вячэры па ўсіх класах хадзіла камісія, ацэньваючы дэкарацыю кожнага класа. Аднак найбольш усім настаўнікам, а таксама і нашаму дырэктару спадабалася дэкарацыя класа III а, які быў асабліва прыгожа і святочна аформлены.

Вечар 17 студзеня быў сапраўды ўрачыстым і прыгожым і, нягледзячы на тое, што за вакном шалела мяцеліца, у школе было тучна і весела.

**Вера Ахрымюк, Бельскі беларускі ліцэй**

## ГАРЦЭРЫ З ПАРЦАВА

У Парцаве шмат гаворыцца аб руках-невідзімках. Гарцэры дапамагаюць бабулям у штодзённай працы.

Гарцэры з Парцава ў мінулым годзе пасадзілі трускалкі і памідоры і, прадаўшы іх, сабралі шмат грошай. Зараз у СКО налічваецца больш як 8300 злотых.

Варта падкрэсліць таксама тое, што тут гарцэры шмат чытаюць. Кніжкі ў бібліятэцы доўга не залежваюцца, хутка прачытваюцца школьнікамі. (ММ)

## РЫГОР НАЗАРУК

Рыгор Назарук з Ягаднікаў лічыцца адным з лепшых гаспадароў у сваёй ваколіцы. Гаспадарыць ён на 9-ці га зямельных угоддзяў. Шмат дае на палі мінеральных угнаенняў, і таму ў яго заўсёды багатыя ўраджаі.

Але найлепшыя вынікі Рыгор Назарук мае ў жывёлагадоўлі. У яго 5 дойных, добрай расы кароў, якія даюць яму шмат даходу, бо ён найбольш сярод сваіх аднавяскоўцаў прадае малака для дзяржавы. (СС)

## ШКОЛЬНІКІ І ІХ ШАПКІ

Ёсць шмат тэхнікумаў, рамесных школ, ёсць шмат таксама ліцэяў. Кожны тып школы мае свае шапкі, якія вучні абавязаны насіць. І школьнікі носяць гэтыя шапкі. Горш з імі зімою. Яны халодныя, без навушнікаў. Многія школьнікі зімою ахвотна насілі б цёплыя шапкі — бо нашто ж марозіць галаву? Але ў цёплых шапках не так проста зайсці ў школу, бо кіраўніцтва некаторых школ не дазваляе насіць іх. Толькі ў школьных шапках павінны хадзіць усе — такі загад. А тое, што холадна ў галаву, нікога гэта не абходзіць.

А тыя ж кіраўнікі і дырэктары, што даюць такі загад, носяць самі цёплыя зімовыя шапкі. Яны не хочуць мерзнуць, а вучняў прымушаюць марозіць галовы.

**М. Масоўскі, Беласток**

## ДАПАМОЖАМ ПТУШКАМ

Між Гайнаўкай і Бельскам многа курапатак. Калі толькі не едзеш цягніком, дык тут можна ўбачыць, як яны вялікімі групамі сядзяць на снягу. І яны цяпер галадаюць. Снег прыкрыў усё. Птушкам неабходна дапамагчы. Трэба, каб людзі, а перш за ўсё школьнікі парабілі кармушкі і вынеслі іх у поле. Нельга не выратаваць птушак ад галоднай смерці.

Неабходная таксама дапамога і іншым птушкам, якім снег і мароз таксама моцна дакучае. (XX)

---

чыць. Накормім вас. А вечарам, як сцямнее, пойдзеце сабе з богам.

Мы з Генкам пераглянуліся і прачыталі ў вачах адзін у другога: згода!

— Я павінна вас папярэдзіць, што надвячоркам да нас прыйдуць салдаты. Мы зробім маленькі пікнік: праводзім нашу Эльзу. — Старая зноў спахмурнела. — Не падумайце толькі страляць...

Мы завагаліся: падобна, што ідзём на смяртэльную рызыку. Не верыць гэтым людзям мы ўжо не маглі. Цяжка было ўявіць, што старая хітравала з намі.

— Калі застанецеся, то пайшлі: час позні, пара адпачываць, — парушыла маўчанне гаспадыня.

Яна запаліла ліхтар і павяла нас у хлеў. У кутку на саломе ляжала прывязаная карова. Яна павярнула галаву, угледзеўшы незнаёмых людзей, памкнулася ўстаць, але, адчуўшы голас гаспадыні, супакоілася. У другім кутку халодным бляскам успыхнулі вочы каня. Зарохкаў вяпрук. Недзе зверху залапатаў крыллямі певень.

Старая падвяла нас да драбін, прыстаўленых да гарышча.

— Асцярожна толькі, не курыце на саломе...

— Мы не курым, — адказаў Генка. Ён сёе-тое разумеў па-нямецку.

Яна пажадала нам добрай ночы і пайшла.

Колькі пачуццяў выклікала раптам такая вось хатняя ўтульнасць! Яна нібы вярнула на момант да мірнага жыцця, аддаліла вайну.

І ўсё ж трывога не пакідала нас. Прыслухоўваліся ўсю ноч — ці не рыпнуць дзверы з хаты. Абодва думалі: выдадуць нас ці не? Але маўчалі. Гэта ж было б абразай для людзей — думаць такое, калі яны, рызыкуючы жыццём, накармілі нас, абагрэлі, далі прытулак.

Усякія сумненні развеяліся, калі жанчына прынесла нам снеданне, пасля — абед.

— Хутка да нас будуць ісці салдаты. Так што, калі ласка, пастарайцеся нічым не выдаць сябе... — напомніла яна.

Перад захадам сонца прыйшло некалькі салдат. Было чутно, як яны гавораць на ганку з Эльзінай маці. Нейкую бадзёрую прымітыўную мелодыю прапілікаў губны гармонік. Мы ляжалі, баючыся паварушыцца. Вельмі марудна цягнуўся час. Але вось рыпнулі дзверы, нехта з ліхтаром увайшоў у хлеў.

— Камрады! — пачуўся знаёмы голас унізе. — Пара.

Мы спусціліся на зямлю.

— Бярыце гэта з сабой, — прапанавала старая.

У вялікім кашы ляжалі чатыры круглыя, духмяныя буханкі свежага хлеба, загорнутыя ў паперу два ладныя кавалкі сала. Мы хуценька пераклалі ўсё ў свае рэчавыя мяшкі.

— А гэта вам пачастунак ад маёй унучкі, — яна падала нам па акрайцу кухенбакена — нямецкага дамашняга пірага.

— Дзякуй вам за ўсё, — я хацеў падаць ёй руку, але не стрымаўся і абняў за плечы, як бывала, сваю маму.

Увайшла яе дачка.

— Кругом усё спакойна, — сказала яна. — У лесе пазбягайце вялікіх дарог — па іх ходзяць патрулі.

Яшчэ раз падзякаваўшы, мы развіталіся з гаспадынямі. Яны памаглі нам надзець перапоўненыя рэчавыя мяшкі, патушылі ліхтар, а потым адчынілі дзверы. Мы пераступілі парог дарагога нам цяпер дома і з аўтаматамі напагатове пайшлі ў лес. **(Працяг будзе)**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Dziewczyna na rozdrożu" (bułg.), 10—11. „Kolekcjoner" (angl.),12—13. „Między wrześniem a majem" (polski), 14—15.

**Дубіны**

„Mój stary" (polski), „Brat dr Homera" (jugosł.), 14—15.

**Нараўка**

„Deszcz padał na szczęście" (czeski), „Molo" (polski), 11—15.

**Нарва**

„Burza" (jugosł.), „Pustelnia Parmeńska" (franc.), 11—15.

**Чыжы**

„Dziennik młodego małżeństwa" (fiński), „Zbrodnia przy ulicy Dantego" (radz.), 11—15.

**Дубічы Царкоўныя**

„Ostatnie dni" (polski), „Ka-

**Арэшкава**

„Krzyżacy" (polski), „Wątła nić" (USA), 11—15.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Taki duży chłopiec" (radz.), „Komedia pomyłek" (polski), 11—15.

**Орля**

„Twój współczesny" (radz.), „Nauczyciel z przedmieścia" (angl.), 11—15.

**Райск**

„Pomyłka szpiega" (radz.), „Napad stulecia" (angl.), 11—15.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Міхалова**

„Anioł błogosławionej śmierci" (czeski), 10—11. „Dzwon admirała" (angl.), 12—13. „Lalka" (polski), 14—15.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Pałace w płomieniach" (radz.), 10—11. „Między wrześniem a majem" (polski), 12—13. „Tylko umarły odpowie" (polski), 14—15.

**Янаў**

„Przygody Tomka Sawyera" (rumuński), „Śmierć Indianina" (rumuński), 11—15.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Miłość i jazz" (szwedzki), 10—11. „Francja naprzód" (franc.), 12—13. „Lalka "(polski), 14—15.

**Мельнік**

„Jezioro starej sowy" (NRD), 10—11. „Trzy godziny miłości" (jugosł.), 12—13. „Kobieta wąż" (angl.), 14—15.

**Мілейчыцы**

„Flip, Flap i inni" (USA), 10—11. „Dziewczyna z diabelskiej przystani" (węgierski), 12—13. „Dożyjmy do poniedziałku" (radz.), 14—15.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Winetou" (jugosł.), III cz. „63 dni" (polski), 11—15.

**Новы Двор**

„Złoto" (polski), „On nie chciał zabijać" (radz.), 14—15.



Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego PUPiK „Ruch" NBP Nr 150-6-161 w Białymstoku. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. W-3 Nakład 7122


залапатаў крыллямі певень.

